IMAGE COMICS PRESENTS

# THE WALKING DEAD™

РОБЕРТ КІРКМАН
сцэнар

ТОНІ МУР
мастак

ComicsBY
пераклад


FOR IMAGE COMICS

JIM VALENTINO
PUBLISHER

BRETT EVANS
ART DIRECTOR

ERIC STEPHENSON
DIRECTOR OF MARKETING

ALLEN HUI
WEB DEVELOPER

BRENT BRUAN
DIRECTOR OF PRODUCTION

TIM HEGARTY
BOOK TRADE COORDINATOR

TRACI HALE
CONTROLLER/FOREIGN LICENSING

CINDIE ESPINOZA
ACCOUNTING ASSISTANT

JON MALIN
PRODUCTION ASSITANT






THE WALKING DEAD PUBLISHED BY IMAGE COMICS. OFFICE OF PUBLICATION: 1071 N. BATAVIA ST., SUITE A, ORANGE, CA 92867. IMAGE AND ITS LOGOS ARE ® AND © 2003, IMAGE COMICS, INC. ALL RIGHTS RESERVED. THE WALKING DEAD, ITS LOGOS AND ALL RELATED CHARACTERS ARE ™ AND © 2003, ROBERT KIRKMAN. ALL RIGHTS RESERVED. THE CHARACTERS AND EVENTS PRESENTED IN THIS PUBLICATION ARE FICTIONAL. ANY SIMILARITIES TO EVENTS OR PERSONS LIVING OR DEAD IS PURELY COINCIDENTAL. WITH THE EXCEPTION OF ARTWORK USED FOR REVIEW PURPOSES, NO PORTION OF THIS PUBLICATION MAY BE REPRODUCED BY ANY MEANS WITHOUT THE EXPRESSED WRITTEN PERMISSION OF THE COPYRIGHT HOLDER. PRINTED IN USA.




# ХАДЗЯЧЫЯ МЕРЦВЯКІ

Пераклад ComicsBY.by (Алена Васількова)

Аўтарскія правы на ідэі, малюнкі, назвы і коміксы
належаць іх стваральнікам.

## TPB #2









# #2 «Miles Behind Us»

ЛОРЫ?


КАРЛ ХУТКА ЗАСНУЎ У МАШЫНЕ. ГЭТА ПЕРШЫ РАЗ, КАЛІ ЁН ЗМОГ ЗАСНУЦЬ, З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК МЫ ВЫЕХАЛІ ДВА ДНЯ НАЗАД.


ДОБРА... ЁН, ЗДАЕЦЦА, ЁН ДОБРА ПРЫВЫКАЕ ДА ЎСЯГО ГЭТАГА.
НАСТОЛЬКІ, НАКОЛЬКІ МАГЧЫМА.


POLICE
У ЦЯБЕ ЎСЁ ДОБРА?

ПАГЛЯДЗІ... УВЕСЬ ГОРАД КІШЫЦЬ ІМІ. МЫ НЕ МОЖАМ ТУДЫ ВАЙСЦІ БЕЗ ТАГО, КАБ НА НАС НЕ НАКІНУЛІСЯ... МАЕ БАЦЬКІ ПАМЕРЛІ. ЛЮБЫ, ХТО ПРЫЙШОЎ У ГОРАД ЗА АБАРОНАЙ, ЗАГІНУЎ.

НІХТО НЕ ЗМОГ ТАМ ВЫЖЫЦЬ.

І РЫК... ТРЫ ТЫДНЯ ЁН У КОМЕ. ЁН НАВАТ НЕ ВЕДАЕ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА... І МЫ КІНУЛІ ЯГО, КАБ ПРЫЕХАЦЬ СЮДЫ І ПАБАЧЫЦЬ НА ГЭТА.

POLICE

Я Б ПРАПАНАВАЎ ВЯРНУЦЦА ЗА ІМ... АЛЕ Ў ШПІТАЛІ ЁН У БЯСПЕЦЫ... ГЭТА САМАЕ БЯСПЕЧНАЕ МЕСЦА ДЛЯ ЯГО, І МЫ НЕ МОЖАМ ДАПАМАГЦІ ЯМУ Ў ЯГО СТАНОВІШЧЫ.

ТЫМ БОЛЬШ... КАЛІ ЎЛАДЫ ХУТКА ПАЧНУЦЬ УХІЛЯЦЬ ГЭТЫЯ БЕСПАРАДКІ, БЛІЖЭЙШЫ БУЙНЫ ГОРАД – ЛЕПШАЕ МЕСЦА ДЛЯ НАС.

О, ШЭЙН. Я НЕ ЗМАГУ ЦЯБЕ АДДЗЯКАВАЦЬ ЗА ТОЕ, ШТО ТЫ АДПРАВІЎСЯ З НАМІ... МЫ З КАРЛАМ САМАСТОЙНА НЕ ДАБРАЛІСЯ Б. Я НІКОЛІ НЕ ЗМАГУ АДПЛАЦІЦЬ ТАБЕ.

Я НЕ ВЕДАЮ, ПРА ШТО ДУМАЕШ ТЫ, АЛЕ Я РАЗБІТА. Я НЕ ВЕДАЮ, ЯК ГЭТА РАСТЛУМАЧЫЦЬ.

УСЁ, ШТО АДБЫЛАСЯ... З РЫКАМ, І З МАІМІ БАЦЬКАМІ, І СА СВЕТАМ... Я БАЮСЯ, ШТО РАБЛЮ НЕ ПРАВІЛЬНА... АЛЕ... Я АДЧУВАЮ СЯБЕ ТАКОЙ...

...САМОТНАЙ.





ЛОРЫ...
ПРАБАЧ...
Я НЕ...
ПРАБАЧ.

НЕ, ШЭЙН... НЕ ПРАСІ ПРАБАЧЭННЯ.
УСЁ, ПРАЗ ШТО МЫ ПРАЙШЛІ...
УСЁ, ПРАЗ ШТО НАМ ЯШЧЭ
ЗАСТАЛОСЯ ПРАЙСЦІ...
Я РАЗУМЕЮ.
ШЭЙН, Я...
ТЫ МНЕ
ПАТРЭБНЫ.

ТЫ МНЕ
ПАТРЭБНЫ.
О, ЛОРЫ...

Я ЖАДАЎ
ГЭТАГА ТАК
ДОЎГА.




НУ
ШТО Ж...






...




СУЧЧЫ СЫН ТЫ!

НУ ШТО ЗА ДЗЕНЬ, А?
ЛОРЫ... ЁН ПЕРАЖЫВАЕ ЗА ГЭТА ЦЯЖЭЙ ЗА ЎСІХ АСТАТНІХ. ЛІЧУ, ШТО З-ЗА ТАГО, ШТО ЯНЫ ДАБІРАЛІСЯ СЮДЫ РАЗАМ... ЁН КЛАПАЦІЎСЯ ЗА ЯЕ І КАРЛАМ... ЯНА ДАВЯРАЛА ЯМУ.
ЧОРТ, ДА МЫ ЎСЕ ДАВЯРАЛІ.
Я НІКОЛІ НЕ ДУМАЎ, ШТО ЁН ЗМОЖА ЗЛАМАЦЦА ВОСЬ ТАК... ЁН ПРОСТА... ВЫБУХНУЎ...

ЁН БЫЎ МАІМ СЯБРАМ... НАПЭЎНА, НАВАТ ЛЕПШЫМ СЯБРАМ. ГЭТА ЛАЙНО, У ЯКОЕ МЫ ТРАПІЛІ, НЕЛЬГА НЕ ПРЫМАЦЬ УСУР'ЁЗ. КАЛІ АД ГЭТАГА ТАКІ ЧАЛАВЕК, ЯК ШЭЙН, ТАК РАДЫКАЛЬНА ЗМЯНІЎСЯ, МЫ Ў БОЛЬШ ГЛЫБОКІМ ЛАЙНЕ, ЧЫМ ЛІЧАМ.
Я ПРОСТА...

Я ЛЕПШ ВЯРНУСЯ... МНЕ ТРЭБА ЗАБРАЦЬ ЯЕ....
ПАГАВАРЫМ ПАЗНЕЙ.


НУ ЯК ЯНА?
ЛЕПШ... АЛЕ ЯШЧЭ НЕ ХУТКА ГЭТА ДЗЯЎЧЫНКА СТАНЕ НАРМАЛЁВАЙ...


ДЭЙЛ, ТЫ ЛІЧЫШ ЗАРАЗ МЫ ЎСЕ ЗМОЖАМ СТАЦЬ НАРМАЛЁВЫМІ?


ПАСЛЯ СЁННЯШНЯГА? МАЛАВЕРАГОДНА... Я Ж КАЗАЎ ТАБЕ... Я ВЕДАЎ, ШТО ТАК БУДЗЕ. ШЭЙН ЗМЯНІЎСЯ ПАСЛЯ ТВАЙГО ПРЫХОДУ.
МНЕ ЗДАЕЦЦА, ЁН КАХАЎ ТВАЮ ЖОНКУ.


Я ВЕДАЮ. ПАСЛЯ ЎСЯГО ТАГО, ШТО ЁН СКАЗАЎ МНЕ ПЕРАД СПРОБАЙ ЗАСТРЭЛІЦЬ... УСЁ СТАНОВІЦЦА ЗРАЗУМЕЛЫМ.


ТАК... АЛЕ Я БАЧЫЎ, ЯК УСЕ Ў ЛАГЕРЫ НЕЯК АСЦЯРОЖНІЧАЮЦЬ З ШЭЙНАМ. АТАКА, ЭМІ, ДЖЫМ... МЫ ГАТОВЫ ПЕРАВЕЗЦІ ЛАГЕР, РЫК. МЫ ДАЗВАЛЯЛІ ШЭЙНУ ПРЫМАЦЬ РАШЭННІ ТАМУ, ШТО ЁН БЫЎ ПАЛІЦЭЙСКІМ... Я – СТАРЫ, ГЛЕН – ЗУЦІМ МАЛЕЦ, АЛЕН... НУ... ЁН НЕ З ЛІДАРСКАЙ ЧАРАДЫ.
НАМ НЕАБХОДНЫ НЕХТА... НЕХТА, ХТО ЗМОЖА ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ БЯСПЕКУ, АСАБЛІВА ЖАНЧЫНАМ. Я РАЗМАЎЛЯЎ З УСІМІ РАНЕЙ... МЫ ЛІЧАМ, ШТО ГЭТЫ НЕХТА – ТЫ.
ДОБРА... ДАВАЙ СПАЦЬ. МЫ ЎЯЗДЖАЕМ АДСЮЛЬ ЗАЎТРА.
МЫ І ТАК ТУТ ЗАТРЫМАЛІСЯ.


А, І ЯШЧЭ АДНА РЭЧ... АНДРЭА ПРАЦЯГВАЛА САЧЫЦЬ ЗА КАЛЕНДАРОМ УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС. ПАКУЛЬ У ЯЕ ЎСЁ НАПЕРАКАСЯК НЕ...
КАРАЦЕЙ КАЖУЧЫ, ЗАЎТРА КАЛЯДЫ.


НІКОМУ НЕ КАЖЫ! ТЫ ЧУЎ МЯНЕ? Я НЕ ХАЧУ, КАБ НЕХТА ДАВЕДАЎСЯ! Я НЕ ХАЧУ ТЛУМАЧЫЦЬ СВАЙМУ СЫНУ, ЧАМУ СЯРОД УСЯГО ГЭТАГА ЛАЙНА САНТА НЕ ЗМОЖА ЗНАЙСЦІ ЯГО...
ДАВАЙ ПРОСТА ПРАПУСЦІМ КАЛЯДЫ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ? Я НЕ ХАЧУ ХВАЛЯВАЦЬ ДЗЯЦЕЙ.
ДОБРА... ЗРАЗУМЕЎ.








ТЫ ТАК ДОЎГА СПІШ, КАРЛ. МЫ ЎЖО СКОНЧЫЛІ ЗАПАКОЎВАЦЬ РЭЧЫ ДЛЯ ВЯЛІКАЙ ПАЕЗДКІ. ТЫ ЯК СЯБЕ АДЧУВАЕШ?

Я ВЕДАЮ, ТАТКА.

КАЛІ ТЫ ЗАХОЧАШ ПАГАВАРЫЦЬ ПРА ТОЕ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ... МОЖАШ ПАГАВАРЫЦЬ СА МНОЙ.

НУ, КАЛІ ЗАХОЧАШ ПАГАВАРЫЦЬ... ПАКЛІЧ МЯНЕ, ДОБРА?

УГУ.

УСЕ ГАТОВЫЯ?
ТРЭБА ТОЛЬКІ ПЕРАЛІЦЬ ПАЛІВА З МАШЫН У ТРЭЙЛЕР. МЫ БУДЗЕМ ГАТОВЫ ДА ВЫЕЗДУ НА ДАРОГУ, ЯК ТОЛЬКІ ДЭЙЛ БУДЗЕ ГАТОВЫ.
Я ГАТОВЫ. ЯК ТОЛЬКІ ЗАПРАВІМСЯ, ЗМОЖАМ ЕХАЦЬ.









ТРАСКАЯ ПАЕЗДКА, АЛЕ ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА, ПАКУЛЬ Я ЕДУ ПАВОЛЬНА. МЫ ХУТКА БУДЗЕМ НА ДАРОЗЕ.


ДЗЯКУЙ БОГУ, СНЕГ СЫХОДЗІЦЬ...


ВЕДАЕШ, ЧАСАМІ ЁН ПАРАСТАЕ СЕРЦІ НА НАС.




АМАЛЬ УСЁ?!
ЛЕДЗЬ ПАДАЛЕЙ... УХ... І МЫ СКІНЕМ ЯЕ З ДАРОГІ.


УУУХХХХ!
НАМ НЯ ТРЭБА СКІДВАЦЬ ЯЕ Ў ЯР... ПРОСТА ТРЭБА АДСУНУЦЬ ДА КРАЯ, КАБ ПРАЕХАЦЬ.


ТАДЫ, ВІДАЦЬ, ХОПІЦЬ... ВЫ РАБЯТЫ МОЖАЦЕ ПЕРАДЫХНУЦЬ...


УУУУУ!
НАПЭЎНА, ДОЛЬШ БЫ Я НЕ ВЫТРЫМАЎ...


РЫК!?
ГЛЯДЗІЦЕ ПА БАКАХ! КОЛЬКІ ІХ?!


НЕ ДАЙЦЕ ІМ УЗЯЦЬ НАС У КОЛА!

ГЭЙ! СПЫНІЦЕСЯ!
НЕ СТРАЛЯЙЦЕ!


БОЖА!
О БОЖА! МЫ ЛЕДЗЬ НЕ ЗАБІЛІ ВАС!


ПРАБАЧЦЕ, ШТО ПАДАЙШЛІ НЕЗАЎВАЖНА ДЛЯ ВАС... АСАБЛІВА Ў ЦЕМРЫ. МЫ ЙШЛІ ПРАЗ ПОЛЕ, КАЛІ МАЯ ДАЧКА, ДЖУЛІ, УБАЧЫЛА СВЯТЛО ВАШЫХ ЛІХТАРОЎ.
МЫ НЯ ШМАТ ЛЮДЗЕЙ СУСТРАКАЛІ. АСАБЛІВА ЖЫВЫХ...


ЗРАЗУМЕЛА... Я ЎЖО І САМ ПАЧАЎ ДУМАЦЬ, ШТО МЫ АПОШНІЯ.
Я РЫК.
ТАЙРЫС.
А ГЭТА ДЖУЛІ І КРЫС... РАБЯТЫ, А Ў ВАС ЁСЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ З ЕЖЫ?

ДЖУЛІ І КРЫС... ЗАРУЧАНЫ? СУСТРАКАЮЦЦА? Я НЯ ВЕДАЮ, ЯК ГЭТА ЗАРАЗ НАЗЫВАЕЦЦА. УСЁ АДНО... КРЫС ЖЫЎ У НАС, КАЛІ ЎСЁ ПАЛЯЦЕЛА ТАР-ТАРАРЫМ, У ЯГО ПРАБЛЕМЫ Ў СЯМ'І. ДОЎГАЯ ГІСТОРЫЯ.

МЫ НЯДРЭННА ЖЫЛІ, ПАКУЛЬ У НАС НЕ СКОНЧЫЛАСЯ ЕЖА, І НЕ СТАЛА ХОЛАДНА... БЕЗ АПАЛУ НАШ ДОМ ХУТКА ПРАМЕРЗ. У НАС НЕ БЫЛО ПЕЧЫ ЦІ ЧАГОСЬЦІ ІНШАГА.

ПАРУ ТЫДНЯЎ НАЗАД НАМ ПРЫЙШЛОСЯ ІСЦІ ШУКАЦЬ ЕЖУ...

НАМ ПАШАСЦІЛА, ШТО МЫ СУСТРЭЛІ ВАС. МЫ ЎЖО НЕ ЕЛІ ДВА ДНІ.

НЕ ДУМАЙ ПРА ГЭТА. ПРОСТА ПРЫЕМНА ПАБАЧЫЦЬ НОВЫ ТВАР. СЛУХАЙ, Я ЛІЧУ МЫ ЗНОЙДЗЕМ МЕСЦА Ў ТРЭЙЛЕРЫ, КАЛІ ТЫ І ТВАЕ РАБЯТЫ ЗАХОЧАЦЕ ЗАСТАЦЦА З НАМІ.

ПРОСТА СЁННЯ НОЧЧУ... ЦІ ДАЎЖЭЙ, ЛІЧУ, БУДЗЕ БЯСПЕЧНА БЫЦЬ У ГУРЦЕ. КАРАЦЕЙ КАЖУЧЫ, САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ.

ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ ЗА ПРАПАНОВУ, РЫК... АЛЕ Я ЛІЧУ, МЫ ЛЕПШ ПАСПІМ ВУНЬ У ТОЙ МАШЫНЕ.

ІМ НЕ ВЕЛЬМІ УТУЛЬНА СЯРОД НЕЗНАЁМЫХ ЛЮДЗЕЙ...

ЗРАЗУМЕЛА. ШТО Ж, ТАДЫ ПАБАЧЫМСЯ ЗАЎТРА.

ТЫ ПРОСТА ЗАПРАСІЎ НЕЗНАЁМЦАЎ СПАЦЬ РАЗАМ З НАМІ?

З ІМ ДЗЕЦІ, ЛОРЫ.

З НАМІ ТАКСАМА. НЕ БУДЗЬ ТАКІМ ДАВЕРЛІВЫМ, РЫК.




Я РАЗУМЕЮ, ПРА ШТО ТЫ ГАВОРЫШ. АБСТАВІНЫ МЯНЯЮЦЬ ЛЮДЗЕЙ. Я БАЧЫЎ, ЯК МОЙ ЛЕПШЫ СЯБАР ЗМЯНІЎСЯ І СПРАБАВАЎ ЗАБІЦЬ МЯНЕ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ТАМУ. Я НІКОЛІ ТАКОГА НЕ ЧАКАЎ НІ АД КАГО... ТЫМ БОЛЬШ АД ЯГО. Я БЫЎ НАСТОЛЬКІ ШАКАВАНЫ АД ТАГО, ЯК ЁН ЗМЯНІЎСЯ, ШТО НАВАТ НЕ ЗРАЗУМЕЎ, У ЯКОЙ НЕБЯСПЕЦЫ Я ЗНАХОДЗІЎСЯ.

Я ЛІЧУ, У НАС ТУТ ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ ПАЗБІРАЛІСЯ... ДУМАЮ, УСЁ БУДЗЕ Ў ПАРАДКУ... АЛЕ КАЛІ СУМЛЕННА... Я ПРОСТА НЕ ВЕДАЮ, ПРА ШТО ДУМАЮЦЬ ЯНЫ.

ДЛЯ МЯНЕ ГЭТА СТРАШНЕЙ, ЧЫМ ПРАГНІЎШЫ МЯРЦВЯК, ЯКІ СПРАБУЕ МЯНЕ ЗЖЭРЦІ.

ПРАЗ ПАРУ ТЫДНЯЎ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК УСЁ ПАЧАЛОСЯ... ПЕРШЫ РАЗ, КАЛІ МЫ ПАЙШЛІ ШУКАЦЬ ЕЖУ, МЫ ПАЙШЛІ Ў СЕЛЬСКУЮ КРАМУ ЗА НЕКАЛЬКІ КІЛАМЕТРАЎ АД НАШАГА ДОМА. МЫ ЗНАЙШЛІ ЯГО РАЗБУРАНЫМ. ЁН БЫЎ АБРАБАВАНЫ ЎЖО РАЗОЎ ТРЫ... АЛЕ ТАМ УСЁ Ж БЫЛІ ЛЮДЗІ... ВЫГЛЯДАЛА ЎСЁ ГЭТА БЯСПЕЧНА, І ДЖУЛІ, КРЫС І Я ДАЛУЧЫЛІСЯ ДА ІХ... МЫ АБШУКВАЛІ КРАМУ, СПРАБУЮЧЫ ЗНАЙСЦІ, ЯК МАГА БОЛЬШ ЕЖЫ.

ТАМ БЫЎ АДЗІН СТАРЫ, ГАДОЎ ЗА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ. ЁН РАНЕЙ ЗАЎСЁДЫ СЯДЗЕЎ КАЛЯ КРАМЫ І ГУТАРЫЎ З СЯБРАМІ АБА ЎСІМ НА СВЕЦЕ... ЛЕПШЫ СТАРЫ, ЯКОГА ТЫ Б МОГ СУСТРЭЦЬ. У ЯГО ЗАЎСЁДЫ БЫЛО, ШТО СКАЗАЦЬ... ПАКУЛЬ МЫ БЫЛІ ПААСОБКУ, ЁН СХАПІЎ ДЖУЛІ... ЗАЦЯГНУЎ ЯЕ Ў БАКАВЫ ПАКОЙ, ВІДАЦЬ ЁН ЖЫЎ ТАМ... МЫ НАВАТ НЕ ПАДАЗРАВАЛІ, ШТО ТАМ НЕХТА БЫЎ.

МІЛЫ СТАРЫ... ПЕРШАЕ, ПРА ШТО ЁН ПАДУМАЎ, КАЛІ НАРЭШЦЕ ЎБАЧЫЎ ЛЮДЗЕЙ... ЁН СПРАБАВАЎ ЗГВАЛТАВАЦЬ ДЖУЛІ... КАЛІ Б ЗАТРЫМАЎСЯ Я ХВІЛІНЫ НА ДВЕ... ЁН БЫ ЗРАБІЎ ГЭТА.

Я ЗАБІЎ ЯГО, РЫК. Я Б ХАЦЕЎ... АЛЕ Я НЕ ДУМАЎ... Я БІЎ ЯГО... І ЁН ПАМЕР.


БОЖА, ПРЫЯЦЕЛЬ... НЕ ВІНАВАЦЬ СЯБЕ Ў ГЭТЫМ... ТЫ ЗРАБІЎ ТОЕ, ШТО Ў ТОЙ СІТУАЦЫІ ЗРАБІЎ БЫ ЛЮБЫ БАЦЬКА.
МОЖА Я І КОП... АЛЕ ГЭТА НЕ АЗНАЧАЕ, ШТО Я НЕ РАЗУМЕЮ, ШТО ПРАВІЛЬНА, А ШТО НЕ. АСАБЛІВА Ў НАШАЙ СЁННЯШНЯЙ СІТУАЦЫІ.
Я ВІНАВАЧУ СЯБЕ НЕ ЗА ТОЕ, ШТО Я ЗРАБІЎ ГЭТА... А ЗА ТОЕ, ШТО Я НЕ ШКАДУЮ, ШТО ГЭТА ЗРАБІЎ.
ТАК... КАНЕЦ СВЕТУ ЗМЯНІЎ ЯГО... АЛЕ ПАГЛЯДЗІ, ЯК ЁН ЗМЯНІЎ МЯНЕ.
ЛІХА МАЦЬ.
ВАНДРОЎЦЫ.
ВАНДРОЎЦЫ?


А... ТАК, ХМ... КАЛІ Ў НАС БЫЎ ЛАГЕР КАЛЯ АТЛАНТЫ, МЫ ХАДЗІЛІ Ў ГОРАД... БОЛЬШАСЦЬ ЗОМБІ ПРОСТА СЯДЗЕЛІ, НАОГУЛ НІЧОГА НЕ РАБІЛІ, ПАКУЛЬ ІХ НЕ ЧАПЛЯЛІ. ЗДАЕЦЦА, ІМ НІБЫТА ПАДАБАЕЦЦА СЯДЗЕЦЬ І НІЧОГА НЕ РАБІЦЬ, ПАКУЛЬ ШТО-НЕБУДЗЬ З ІМІ НЕ ЗДАРЫЦЦА.
ПОТЫМ НАШ ЛАГЕР БЫЎ АТАКАВАНЫ... НЕКАЛЬКІ ГЭТЫХ ПАЧВАР ПРОСТА ПРАРВАЛІСЯ ПРАЗ НАС І ЗАБІЛІ ДВУХ НАШЫХ СЯБРАЎ. ТАМУ МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ГЭТЫЯ ЗОМБІ ПРОСТА ВАНДРУЮЦЬ ВАКОЛ, ПРОСТА РУХАЮЦЦА АБЫ КУДЫ.
МНЕ ЗДАЕЦЦА, ВАНДРОЎЦЫ – НЯДРЭННАЯ МЯНУШКА.


ЯНЫ ІДУЦЬ СЮДЫ... НАМ ТРЭБА НЕШТА РАБІЦЬ.
У НАС ЁСЦЬ СЯКЕРА Ў ТРЭЙЛЕРЫ, КАЛІ ХОЧАШ, БЯРЫ. СТРЭЛЫ МОГУЦЬ ПАЧУЦЬ ІНШЫЯ ПАЧВАРЫ.
ПАКУЛЬ МНЕ ДАСТАТКОВА МАЛАТКА.


ТРЭБА ІХ РАЗЛУЧЫЦЬ... ТЫ ІДЗІ Ў ТОЙ БОК І ПАСПРАБУЙ ПРЫЦЯГНУЦЬ ІХ УВАГУ ДА СЯБЕ.
ЗГОДНЫ.

ГЭЙ, ВЫРАДКІ! СЮДЫ!

ГАХ?

ЛАЙНО! ЗДАЕЦЦА, ЯНЫ ІДУЦЬ ДА МЯНЕ АБОДВА!

Я ЗАРАЗ.

СЮДЫ, ПРЫГАЖУН.
УНГХ.
THAP!


АТРЫМАЛАСЯ.
АРРРРРР!
ДОБРА,
ДАВАЙ.


THCK!


THUNK!


SPLAK!


З НАМІ
ЎСЁ Ў ПАРАДКУ!
УСЁ ПАД КАНТРОЛЕМ!

КАЛІ МЫ НЕ МЕНШ, ЧЫМ ЗА ДВАЦЦАЦЬ КІЛАМЕТРАЎ АД АТЛАНТЫ... МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ ЗАНАДТА БЛІЗКА. ДАВАЙЦЕ ШУКАЦЬ ДОМ ПАБЛІЗУ І З'ЯЗДЖАЦЬ З ГАСЦІНЦА.

ДАВАЙ.

ЧАЛАВЕК-ПАВУК! ЦІ ЗМОЖАМ МЫ ПРЫБРАЦЬ УВЕСЬ ГЭТЫ БРУД?

ГЭТА ЗОЙМЕ ЧАС, АЛЕ, ДУМАЮ, МЫ ЗМОЖАМ.

ПАЧНЕМ... ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН СЦЯМНЕЕ.


Я РАДЫ, ШТО МЫ СУСТРЭЛІ ЦЯБЕ. НАВАТ КАЛІ Б МЫ ВЫКАРЫСТАЛІ ТРЭЙЛЕР ЯК БУЛЬЗЕР, НЕ ДУМАЮ, ШТО МЫ Б ЗМАГЛІ ПРЫБРАЦЬ УСЕ ГЭТЫЯ РАЗВАЛІНЫ З ДАРОГІ БЕЗ ТВАЁЙ ДАПАМОГІ.
Я ПРОСТА РАБЛЮ, ШТО МАГУ, РЫК. Я РАДЫ, ШТО ВЫ ДАЗВОЛІЛІ НАМ ДАЛУЧЫЦЦА.


НУ, ПАКУЛЬ Я МАГУ СКАЗАЦЬ... ТЫ КАШТОЎНЫ. АКРАМЯ РЫКА, Я НЕ ДУМАЮ, ШТО ХТО-НЕБУДЗЬ ТАКІ Ж СІЛЬНЫ, ЯК ТЫ.


КАЛІ ЦЯБЕ НЕ БЫЛО, ССОЎВАЦЬ МАШЫНЫ БЫЛО ЗНАЧНА ЦЯЖЭЙ.


ДА І НА ВОЧЫ ТЫ АСАБЛІВА НЕ ТРАПЛЯЕШ.
ДЫК І ТЫ ТАКСАМА, КЭРАЛ.


У ВАС, РАБЯТЫ, ШМАТ ЕЖЫ.
ЗА ГЭТА МЫ ЎДЗЯЧНЫ ГЛЕНУ. ПЕРАД ТЫМ, ЯК МЫ ЎЕХАЛІ, МЫ НАЗАПАСІЛІСЯ КАНСЕРВАМІ, ЯКІЯ ЁН ПРЫНЕС З АТЛАНТЫ.
Я ПРОСТА УНЁС СВАЁ ЎКЛАДАННЕ.


О, НЕ ПАВОДЗЬ СЯБЕ СЦІПЛА, ГЛЕН... БЕЗ ЦЯБЕ БЫЛО Б ДРЭННА. НАМ ПРЫЙШЛОСЯ Б БОЛЬШ ПАЛЯВАЦЬ.
ТЫ ПРОСТА ВЫРАТАВАЛЬНЫ КРУГ.


Я ЗГОДНЫ СА СПАДАРЫНЯЙ, ГЛЕН.
Я НЕ ЕЎ ТАКОГА ТЫДЗЕНЬ.






ЯК ЧАЛАВЕК, ЯКІ БАЧЫЎ ГЛЕНА Ў ДЗЕЯННІ... Я ХАЧУ СКАЗАЦЬ, ГЛЕН САПРАЎДЫ ВЕДАЎ, ШТО РАБІЦЬ У ГОРАДЗЕ.
ФАКТ У ТЫМ, ШТО ЁН РЫЗЫКАВАЎ ЖЫЦЦЁМ КОЖНЫ ДЗЕНЬ ДЗЕЛЯ ХАРЧОЎ ДЛЯ ЛАГЕРА... ГЭТА АДВАЖНА.


КАЛІ Б ЯГО НЕ БЫЛО Ў ГОРАДЗЕ, КАЛІ Я ПЕРШЫ РАЗ ПРЫЙШОЎ У АТЛАНТУ, Я Б НІКОЛІ НЕ ЗНАЙШОЎ ЛОРЫ І КАРЛА... НАВАТ, КАЛІ Б ВЫЖЫЎ.


Я, Э...


ПАЧАКАЙЦЕ ХВІЛІНУ, РАБЯТЫ.


ЛОРЫ?







НЕ,
РЫК.

Я ЦЯЖАРНА.

ПРАЦЯГ БУДЗЕ...


ЦЯЖАРНА?
ЯК ДАЎНО?


НЯ ВЕДАЮ... ТЫДЗЕНЬ... МОЖА ДВА... МОЙ ЦЫКЛ ЗБІЎСЯ, КАЛІ ЎСЁ ПАЧАЛОСЯ. Я ДУМАЮ, З-ЗА СТРЭСАЎ.


ТЫ ЎПЭЎНЕНА?


УПЭЎНЕНА. Я ВЕДАЮ ДАКЛАДНА, ШТО АДЧУВАЕШ У ТАКІХ ВЫПАДКАХ. НЯМА СУМНЕВАЎ...
Я ЦЯЖАРНА.


ШТО БУДЗЕМ РАБІЦЬ?
НЯ ВЕДАЮ.


Я ЦЯБЕ ХАЦЕЛА СПЫТАЦЬ.


УСЁ Ў ПАРАДКУ?

Я ЦЯЖАРНА.
ПРОСТА ХАЦЕЛА СКАЗАЦЬ РЫКУ СПАЧАТКУ.

У НАС БУДЗЕ ДЗІЦЯ.


ЭЭЭ... УАЎ. Я ПРОСТА... Я НЯ ВЕДАЮ, ШТО СКАЗАЦЬ.

ГАДАМІ СПРАЦОЎВАЛА "ВІНШУЮ".

ПРАБАЧ, РЫК... Я ПРОСТА ХВАЛЮЮСЯ. У НАС НЯМА ДАКТАРОЎ, НЯМА ШПІТАЛЯЎ. ШТО ВЫ БУДЗЕЦЕ РАБІЦЬ?

ПЕРАСЯЧЭМ МОСТ, КАЛІ ПАДОЙДЗЕМ ДА ЯГО.
УСЁ БУДЗЕ ДОБРА, АЛЕН. ГЭТА ДОБРЫЯ НАВІНЫ.


ВО ХАЛЕРА, ЗНОЎ СНЕГ ПАЙШОЎ. МЫ ДАСТАТКОВА ВАДЫ НАКІПЯЦІЛІ, КАБ ПАПОЎНІЦЬ БУТЭЛЬКІ?
ДАРЭЧЫ, ДОБРА Б БЫЛО, КАБ МЫ ЗНАЙШЛІ ГЭТУЮ РЭЧКУ.


РЫК, ПАМЯТАЕШ, МЫ НЕЯК С ТАБОЙ РАЗМАЎЛЯЛІ... ШЭЙН І ЛОРЫ... ТЫ НЕ ДУМАЕШ?..


СЛУХАЙ, ДЭЙЛ, ПРОСТА СПЫНІСЯ, ДОБРА?


ПРОСТА ТЫ З НАМІ КРЫХУ БОЛЬШ МЕСЯЦА. ТАМУ МОЖА БЫЦЬ...


БОЛЬШ НІ СЛОВА, ДЕЙЛ! НІ ВОДНАГА КЛЯТАГА СЛОВА!
Я ВЕДАЮ ДАКЛАДНА, ШТО ТЫ ХОЧАШ СКАЗАЦЬ. ТЫ ДУМАЕШ, Я ПРА ГЭТА НЕ ДУМАЎ? ГЭТА ЎСЁ, ПРА ШТО Я ДУМАЮ. СЭКС У НАС БЫЎ АДЗІН РАЗ, КАЛІ Я ВЯРНУЎСЯ... Я СЫХОДЖУ З РОЗУМУ АД ГЭТАГА. АЛЕ Я ВЕРУ МАЁЙ ЖОНЦЫ, І ГЭТА ЎСЁ, ШТО Я МАГУ ЗРАБІЦЬ.
Я СПРАБУЮ НЕ ДУМАЦЬ ПРА ГЭТА. КАЛІ Я ПРАЦЯГНУ, ТО З ГУСТУ З'ЕДУ.
Я ХВАЛЮЮСЯ ТАК ЖА, ЯК І АЛЕН. ГЭТА МОЖА ЗАБІЦЬ ЛОРЫ... І Я... НЕШТА ІНШАЕ МОЖА ЗАБІЦЬ МЯНЕ.
Я ПРОСТА НЕ ЗМАГУ ЗЛАДЗІЦЬ З ГЭТЫМ ЗАРАЗ.


РЫК, Я... ПРАБАЧ, ШТО Я ПАЧАЎ ГЭТУЮ РАЗМОВУ.
НЕ ТУРБУЙСЯ, СЫНОК, УСЁ БУДЗЕ ДОБРА. ТЫ ПЕРАЖЫЎ ШМАТ ЧАГО НЕ ДЛЯ ТАГО, КАБ СТРАЦІЦЬ УСЁ ЗАРАЗ.
АСАБЛІВА, КАЛІ Ў ЦЯБЕ БУДЗЕ ЯШЧЭ ДЗІЦЁ.


ДОБРА... ПОЙДЗЕМ ПАСПІМ.






ЛАЙНО.
ГЭТА МЕСЦА МОЖА НАМ ПАДЫЙСЦІ.




ПАЕХАЛІ.
ДЛЯ НАС ТУТ НІЧОГА ЦІКАВАГА НЯМА.


НЕ РАЗЫХОДЗЬЦЕСЯ ДАЛЁКА. ХУТКА ТРЭБА БУДЗЕ ЕХАЦЬ.






АААААЙ!

О БОЖА!
О БОЖА!
О БОЖА!
О БОЖА!
ДЭЙЛ!


Я... Я ПРОСТА ШПАЦЫРАВАЎ. Я НАВАТ НЕ ЎБАЧЫЎ ЯГО. ПРАБАЧЦЕ, ШТО НАПУЖАЎ.
БОЖА МОЙ, ДЭЙЛ! ТЫ Ў ПАРАДКУ?! ЁН НЕ ПАРАНІЎ ЦЯБЕ? ТЫ Ў ПАРАДКУ?!
Я Ў ПАРАДКУ, АНДРЭА. Я ПРОСТА ПАДАЮ КУЛЁМ. Я Б ХАЦЕЎ ПРОСТА БЫЦЬ У ПАРАДКУ.
ШТО ТУТ?
ВОСЬ Д'ЯБАЛ.
ЁН МЁРТВЫ?


Я ЛІЧУ, ЁН ЗАМЁРЗ.


АГГ.
АААА!


АГА. ВОСЬ, ШТО С ТАБОЮ ЗДАРЫЛАСЯ?
ТАК, ТОЛЬКІ ГЛЯДЗЕЦЬ СМЯШНЕЙ І НЕ ТАК БАЛЮЧА.


KROK!


НАПЭЎНА, У ІХ НЯМА ЦЫРКУЛЯЦЫІ КРЫВІ... ТАМУ ЯНЫ ЗАМЯРЗАЮЦЬ ХУТЧЭЙ ЗА НАС.
І ГЭТА ДОБРА.
МЫ Ў БЯСБЕЦЫ, ПАКУЛЬ ТРЫМАЕЦЦА ТАКОЕ НАДВОР'Е.


А ГРУШАЎ У КАНСЕРВАХ НЕ ЗАСТАЛОСЯ?
КАЛІ АПОШНІ РАЗ ПРАВЯРАЛА, НЕ БАЧЫЛА НІ ВОДНАЙ. ЗАСТАЛОСЯ ЯШЧЭ ТРЫ З ПЕРСІКАМІ. КАЛІ ЯНЫ КОНЧАЦЦА, МЫ ЗАСТАНЕМСЯ БЕЗ САДАВІНЫ.
ХАЛЕРА... Я ВЕЛЬМІ ЛЮБЛЮ ГРУШЫ. І НЕНАВІДЖУ ПЕРСІКІ.


ТЫ ХВАЛЮЕШСЯ?
Я МАЮ НА ЎВАЗЕ – ЗА ДЗІЦЯ.


ТАК, КАНЕШНЕ. У СЭНСЕ... ЛЮДЗІ СТАГОДДЗЯМІ НАРАДЖАЛІ БЕЗ ДАПАМОГІ, АЛЕ АД ГЭТАГА МНЕ НЕ СТАНОВІЦЦА ЛЯГЧЭЙ.
І МЫ НЕ МОЖАМ ПРАВЕРЫЦЬ, ЦІ ЎСЁ БУДЗЕ Ў ПАРАДКУ, І ЦІ НЕ БУДЗЕ ПРАБЛЕМ ПОТЫМ. У МЯНЕ МОГУЦЬ БЫЦЬ БЛІЗНЯТЫ, А МЫ НАВАТ ГЭТАГА НЕ ВЕДАЕМ.


І МОРФІЙ... У НАС НЯМА МОРФІЮ.
ЛАЙНО! ПРА ГЭТА Я НАВАТ НЕ ПАДУМАЛА.


АЙ, МАМ! ТЫ СКАЗАЛА ДРЭННАЕ СЛОВА! ТЫ ПАВІННА МНЕ ЧАЦВЯРТАК!
ХІ-ХІ!


О, КАРЛ! ЗАПІШЫ НА МОЙ РАХУНАК.


ВУНЬ ТАМ! СПЫНІСЯ!
Я БАЧУ!


Я ЛІЧУ,
МЫ ВЫЙГРАЛІ
ДЖЭКПОТ!


МЫ НЕ МЕНШ ЯК НА ДВЕСЦЕ МІЛЬ АД ГОРАДА... ТУТ МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ У БЯСПЕЦЫ.
БОЖА. КАЛІ Б СНЕГ НЕ ПЕРАСТАЎ ГАДЗІНУ НАЗАД, МЫ Б ПРАМІНУЛІ ГЭТАЕ МЕСЦА.


ГЭТАЕ МЕСЦА ІДЭАЛЬНА. МЫ МОЖАМ ПАЧАЦЬ НОВАЕ ЖЫЦЦЁ ТУТ.
ВЫГЛЯДАЕ ПЕРСПЕКТЫЎНА.
ДОБРА, ДАВАЙЦЕ АГЛЯДЗІМСЯ, АЛЕ НЕ РАЗЫХОДЗЬЦЕСЯ ДАЛЁКА АДЗІН АД АДНАГО. ПРОСТА ПРАВЕРЫМ НЕКАЛЬКІ БЛІЖЭЙШЫХ ХАТ. МЫ НЕ ВЕДАЕМ ЦІ САПРАЎДЫ ГЭТАЕ МЕСЦА ЗАКІНУТАЕ. І ХУТКА ПАВЕЧАРЭЕ, ТАКІМ ЧЫНАМ БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫ.


ХЛОПЧЫКІ, ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З КЭРАЛ, ДОБРА?


Я АДВЯДУ ДЗЯЦЕЙ НАЗАД У ТРЭЙЛЕР, ПАКУЛЬ ВЫ, РАБЯТЫ, ТУТ НЕ СКОНЧЫЦЕ.


ВЫДАТНАЯ ІДЭЯ.
БЫЛО Б ДОБРА, КАБ УСЕ ПАДРЫХТАВАЛІ СВАЮ ЗБРОЮ.


ПАКУЛЬ УСЁ ДОБРА.


А Ў ІХ ТУТ ВЯЛІКІ ДВОР.


ГЭТА МЕСЦА ВЫГЛЯДАЕ ПУСТЫМ.


Я НЯ ВЕДАЮ, КАЛІ АНДРЭА ВЫЙДЗЕ З ГЭТАГА СТАНОВІШЧА. ЯНА ПРОСТА СЯДЗІЦЬ УВЕСЬ ЧАС І ДЭПРЭСУЕ.
Я ХВАЛЮ-ЮСЯ ЗА ЯЕ.


ГЭТЫ ДОМ ПУСТЫ.
ШТО Ў ВАС, РАБЯТЫ? УСЁ ЧЫСТА?
НІБЫТА ТАК. Я НЕ БАЧЫЎ НІКОГА НІДЗЕ ПАБЛІЗУ.
ДОБРА. НЯ ВЕДАЮ, ЯК ВЫ, АЛЕ Я НЕ ХАЧУ ПРАВЕСЦІ ЯШЧЭ НОЧ СПАКАВАНЫМ У ТРЭЙЛЕРЫ. ШТО СКАЖАЦЕ НАКОНТ ТАГО, КАБ УЗЯЦЬ НАШЫЯ РЭЧЫ І ЎВАЛІЦЦА Ў АДЗІН З ГЭТЫХ ДАМОЎ НА НАЧ?
ВОКНЫ НА ДРУГІМ ПАВЕРСЕ Ў ГЭТЫМ ДОМЕ БЫЦЦАМ У ПАРАДКУ. ТАМ ПАВІННА БЫЦЬ ДАСТАТКОВА ЦЁПЛА. ЗАЎТРА МЫ МОЖАМ ПАЧАЦЬ ЧЫСЦІЦЬ АСТАТНІЯ ДАМЫ, І Ў КОЖНАГА З НАС БУДЗЕ ЎЛАСНАЕ МЕСЦА ДЛЯ ЖЫЛЛЯ.


НЯДРЭННАЯ ІДЭЯ.
ДОБРА, ДАВАЙЦЕ ЗАБЯРОМ АСТАТНІХ І БУДЗЕМ РАЗМЯШЧАЦЦА.




ТАЙРЫС І Я АГЛЕДЗІМ ДОМ. УСЕ ЗАСТАВАЙЦЕСЯ ТУТ, ПАКУЛЬ МЫ НЕ ВЕРНЕМСЯ.


Я ПАГЛЯДЖУ НАВЕРСЕ.
УБАЧЫШ ШТО-НЕБУДЗЬ – КРЫЧЫ.
ГЛЕДЗЯЧЫ ШТО Я ЎБАЧУ... У МЯНЕ МОЖА І НЕ БУДЗЕ АСАБЛІВАГА ВЫБАРУ.






ТУТ, ЗДАЕЦЦА, СКЛЕП! ГЭТЫЯ ДАМЫ БОЛЬШ, ЧЫМ ЗДАЮЦЦА.


ЧОРТ!
ЧОРТ!
ЧОРТ!


SLUKK!
ХАЛЕРА ЦЯБЕ БЯРЫ!


WHUMP!
УФФ!


ДЭЙЛ?! ГЛЕН?! ВЫ МНЕ КРЫХУ НЕ ДАПАМОЖАЦЕ?!


ТРЫМАЙСЯ, РЫК!


ПАДЫМІ ЯГО ГАЛАВУ ДА НЕБА, КАБ Я МОГ СТРЭЛІЦЬ!


FWUMP!


THUD!
Я ПРЫКРЫЮ ЦЯБЕ, ПРЫЯЦЕЛЬ!


ДАВАЙ ПРЫБ'ЕМ ГЭТЫХ ЕЛДАСМАКАЎ!


БУДУ РАДЫ!


SHUNK!


WHAM!
WHAM!
WHAM!
WHAM!


WHACK!
WHACK!
WHACK!









КААААААХ.
ТАЙРЫС, ЁСЦЬ АДЗІН!
ІДУ!



























*НФЛ - НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ФУТБОЛЬНАЯ ЛІГА. АМЕРЫКАНСКІ ФУТБОЛ. **БАРНІ ФАЙФ - ВЫДУМАНЫ ШЭРЫФ З ТВ-СЕРЫЯЛУ "ШОЎ ЭНДЗІ ГРЫФІТА".


ТУТ УСЁ ЗАБІТА КАНСЕРВАНІ.
ЛІЧУ, ЗАЎТРА МЫ ЗНОЙДЗЕМ ІХ ЯШЧЭ, КАЛІ АБШУКАЕМ АСТАТНІЯ ДАМЫ. ЯК НАБЯРОМ ВЯЛІКУЮ КУЧУ – СПАЛІМ... МЫ ЎЖО НАДЫХАЛІСЯ ГЭТЫМ СМУРОДАМ. МЯНЕ АД ЯГО ВАНІТУЕ. ТАКІМ ЧЫНАМ, ПАЧАКАЕМ ДЗЕНЬ І СПАЛІМ ІХ УСІХ РАЗАМ.
ЁСЦЬ ГРУШЫ?
ГРУШЫ, ЯБЛЫКІ, АНАНАСЫ, ПЕРСІКІ, ВІШНІ... КАЛІ БЫВАЕ КАНСЕРВІРАВАНЫ ВІНАГРАД, ЁН І ТУТ ЁСЦЬ.
З ТАКІМ ЗАПАСАМ, МОЖНА ДУМАЦЬ, ЯНЫ ВЕДАЛІ, ЧАГО ЧАКАЦЬ.
РАДЫ ГЭТА ЧУЦЬ. КАЛІ Я ЎБАЧЫЎ РАЗБІТЫЯ ВОКНЫ, Я ПАЧАЎ ХВАЛЯВАЦЦА. АЛЕ МАРАДЗЁРСТВА ПАВІННА БЫЛО БЫЦЬ РАНЕЙ, КАЛІ ЛЮДЗІ КРАЛІ ТЭЛЕВІЗАРЫ, ВІДЭА І КАМПУТАРЫ. ДА ТАГО ЧАСУ, КАЛІ КАНСЕРВЫ СТАЛІ БОЛЬШ ПАТРЭБНЫМІ, УСЕ, ВІДАЦЬ, УЖО ЗБЕГЛІ Ў АТЛАНТУ.
НАМ ПАШАНСІЛА.


ДОБРА, УЖО ПОЗНА, І Я З НЕЦЯРПЕННЕМ ЧАКАЮ ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ, КАБ ПАЧАЦЬ АБШУКВАЦЬ ГЭТАЕ МЕСЦА. ПРАПАНУЮ ЗАВАЛІЦЦА СПАЦЬ. БУДЗЕ БЯСПЕЧНЕЙ, КАЛІ ЎСЕ ЛЯЖАМ НАВЕРСЕ. КАЛІ ХТОСЬЦІ БУДЗЕ ПАДЫМАЦЦА ДА НАС, МЫ ПАЧУЕМ. ДА ТАГО Ж, ГЭТА ЗНАЧНА ЗАПАВОЛІЦЬ ІХ.
У НАС ЧАТЫРЫ ПАКОІ І ВАННАЯ НАВЕРСЕ. Я ВЕДАЮ, ШТО ВЫ ХАЦЕЛІ Б СПАЦЬ ТОЛЬКІ СА СВАІМІ СЕМ'ЯМІ, АЛЕ СЁННЯ НОЧЧУ ПРЫЙДЗЕЦЦА КАМУСЬЦІ СПАЦЬ У АДНЫМ ЛОЖКУ. ДОБРААХВОТНІКІ ЁСЦЬ?


Я ЛЯГУ Ў ВАННАЙ. Я СПАЎ У ВАННАЙ, КАЛІ ВУЧЫЎСЯ Ў КАЛЕДЖЫ. ДЛЯ МЯНЕ ГЭТА БУДЗЕ НЕ ПРАБЛЕМА.
САФІЯ І Я МОЖАМ ЛЕГЦІ Ў АДНЫМ ПАКОІ З ТАЙРЫСАМ, ДЖУЛІ І КРЫСАМ.
ХЕХ.
НУ ВОСЬ І ДОБРА. ДАВАЙЦЕ ВОЗЬМЕМ КОЎДРЫ І АДПАЧНЕМ.
THAP!










НУ, Я ДУМАЮ, ШТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ ВОСЕМ МЕСЯЦАЎ, КАБ ЗНАЙСЦІ ДОКТАРА ДЛЯ ЦЯБЕ. КАЛІ МЫ ТРЫВАЛА ЎСТАЛЮЕМСЯ ТУТ, Я ПАСПРАБУЮ ЯШЧЭ РАЗ ПРАЕХАЦЦА ПА ДАРОЗЕ.

ТЫ ЗАЎСЁДЫ ЖАДАЛА ЯШЧЭ ДЗІЦЯ, ПЕРАД ТЫМ, ЯК КАРЛ ВЫРАСЦЕ. Я ДУМАЮ, ШТО РАЗ УЖО ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ, ЗНАЧЫЦЬ, ЧАС ПРЫЙШОЎ. ТЫМ НЕ МЕНШ, ГЭТА НЕ ПАТРЭБНАЕ УСКЛАДНЕННЕ.

УСЁ БУДЗЕ ДОБРА, МІЛАЯ. НЕ ТУРБУЙСЯ.

Я ВЕДАЮ, РЫК. Я ТАК САМА ХВАЛЮЮСЯ, АЛЕ ЗАРАЗ У НАС З'ЯВІЛАСЯ ГЭТАЕ НОВАЕ МЕСЦА... Я АДЧУВАЮ СЯБЕ БОЛЬШ ЎПЭЎНЕННА.

ПРОСТА...

Я ТУТ ПАРЫЛАСЯ Ў НАШАЙ ШАФЕ І ЗНАЙШЛА ЯШЧЭ КОЎДРЫ. ВАМ, РАБЯТЫ, ТРЭБА ЯШЧЭ АДНО?

КАНЕШНЕ, ДОНА, ДЗЯКУЙ.


ДАБРАНАЧ.


О, ТАЙРЫС... ЭЙ, Я ЗНАЙШЛА КОЎДРЫ Ў ШАФЕ. ТУТ ХОПІЦЬ КОЖНАМУ ЯШЧЭ ПА АДНОЙ.


БЯРЫ ТРЫ. ДАЙ АДНО КЭРАЛ І САФІІ. ЦІ НЕ МОГ БЫ ТЫ АДНЕСЦІ ТРЭЦЦЯЕ Ў ВАННУЮ ДЛЯ ГЛЕНА?
КАНЕШНЕ, НЯМА ПРАБЛЕМАЎ, ДОНА, І ДЗЯКУЙ.


ГЭЙ, ТАЙРЫС. Я Е ДУМАЮ, ШТО Ў МЯНЕ БЫЎ ШАНЕЦ ЦЯБЕ ЗАВІТАЦЬ У НАШАЙ СУПОЛКЕ. Я ВЕЛЬМІ РАДА, ШТО ТЫ ДАЛУЧЫЎСЯ. ТЫ ВЕЛЬМІ НАМ ДАПАМАГАЕШ, І ДЖУЛІ ВЕЛЬМІ МІЛАЯ ДЗЯЎЧЫНКА.
ДЗЯКУЙ ЗА ДОБРЫЯ СЛОВЫ. НАМ САПРАЎДЫ ПАШАНСІЛА, ШТО МЫ ЗНАЙШЛІ ТАКІХ ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ. АСАБЛІВА Ў НАШЫМ СТАНОВІШЧЫ... МЫ БЫЛІ БЕЗ ЕЖЫ, БЕЗ СХОВІШЧА... МЫ НАПЭЎНА, НЕ ВЫЖЫЛІ Б, КАЛІ Б НЕ СУСТРЭЛІ ВАС ТОЙ НОЧЧУ.


Я ВЕЛЬМІ ЎДЗЯЧНЫ ЎСІМ ВАМ. ВЫ ЗАЎСЁДЫ МОЖАЦЕ РАЗЛІЧВАЦЬ НА МЯНЕ.
ДАБРАНАЧ, ДОНА.


ДАБРАНАЧ, ТАЙРЫС. ДОБРАГА СНА.


ДЭЙЛ?
АНДРЭА?
Я ТУТ ЗНАЙШЛА...


АНДРЭА Ў ПАРАДКУ.
А? ШТО?


Я ХАЦЕЛА ДАЦЬ ІМ КОЎДРУ І ЎБАЧЫЛА ІХ... РАЗАМ... ТАКІМ ЧЫНАМ, У НАС З'ЯВІЛАСЯ ДАДАТКОВАЯ КОЎДРА.
Я НЕ АДВАЖЫЛАСЯ ІХ СПЫНІЦЬ.


САПРАЎДЫ? УАЎ. НУ ЗНАЧЫЦЬ, НАМ ПАШАНСІЛА?
Я ДУМАЮ, ЯНО ІМ НЕ ТРЭБА... У ІХ ЗАРАЗ ЗАЛІШНЕ ЦЯПЛА.


ТЫ ВЕДАЕШ... Я ЎСЁ ЯШЧЭ НЕ ЎХВАЛЯЮ ГЭТЫХ АБОДВУХ, АЛЕ АНДРЭА ДАРОСЛАЯ ЖАНЧЫНА І ЯНА МОЖА ВЫРАШАЦЬ ЗА СЯБЕ САМАСТОЙНА. ПРОСТА ПРЫЕМНА БАЧЫЦЬ ЛЮДЗЕЙ ШЧАСЛІВЫМІ СЯРОД УСЯГО, ШТО АДБЫВАЕЦЦА...
Я ШЧАСЛІВА ЗА ІХ.


СНЕЖНАЯ КАРАЛЕВА РАСТАЕ.
О, ТІШЭЙ.


ДАРЭЧЫ, Я ДУМАЮ, НА ВУЛІЦЫ ПАЦЯПЛЕЛА. СНЕГ РАСТАЕ НА ВОКНАХ.






SHIRE ESTATES
ХЛОП


ХЛОП


УС
МЁРТВ
Н
ВАХ
ХЛОП


УСЕ
МЁРТВЫЯ
НЕ
ЎВАХОД
ЦЬ
ХЛОП


УСЕ
МЁРТВЫЯ.
НЕ
ЎВАХОДЗІЦЬ








ЛОРЫ?


ЛОРЫ?


ШШШ
ТЫ ЯГО АБУДЗІШ.

О, ПРАБАЧ. ТЫ ДАЎНО ПРАЧНУЛАСЯ?

ПАРА ХВІЛІН... ПАЎГАДЗІНЫ... Я НЕ САЧЫЛА ЗА ЧАСАМ. НЯДАЎНА.
ПАГЛЯДЗІ НА ЯГО. ТАКІ СПАКОЙНЫ. ЁН НЕ СПАЎ ВОСЬ ТАК С ТЫХ ЧАСОЎ, КАЛІ МЫ ВЫЕХАЛІ З АКРУГІ ХАРЫСАН.

НЕ МАГУ ЎЯВІЦЬ САБЕ, ЯК ЦЯЖКА ЯМУ НА ДУШЫ... ШЭЙН... ДЖЫМ ДЫ ЭМІ. ВОСЬ ХАЛЕРА, ЛОРЫ. Я НЕ ВЕДАЮ, ЯК МНЕ ЗДОЛЕЦЬ З ГЭТЫМ.

Я ВОСЬ АБ ЧЫМ ПАДУМАЛА. НОВАЕ ДЗІЦЁ НІКОЛІ НЕ ДАВЕДАЕЦЦА ПРА ТОЕ, ЯКІМ БЫЎ СУСВЕТ.. А КАРЛ НЕ ПАЖАДАЕ ПАМЯТАЦЬ ДОЎГА.
ЁН НІКОЛІ НЕ ПАЗНАЕ ЯК ГЭТА – АТРЫМЛІВАЦЬ ПАСВЕДЧАННЕ КІРОЎЦЫ ЦІ ПАЙСЦІ Ў КІНО З ДЗЯЎЧЫНАЙ.

НА ТВАЮ ДУМКУ, РЫК, У НАС АТРЫМАЕЦЦА ЎСЁ АДНАВІЦЬ?

НЕ ВЕДАЮ.
Я СПАДЗЯЮСЯ.




Я...ЭМ... ПРАБАЧ... ЗДАЕЦЦА, Я... КАЛІ СПАЎ... ХМ.


НЕ, ТАЙРЫС. УСЁ ДОБРА.
МНЕ ПАДАБАЕЦЦА.






Я РАЗВАЖАЛА ПРА АНДРЭА І ДЭЙЛА... ЯНЫ АБОЕ ЗГУБІЛІ КАГОСЬЦІ, КАГО ЯНЫ КАХАЛІ... ВЕЛЬМІ БЛІЗКІХ ДА ІХ... М БЫЛО ЦЯЖКА, МЫ БАЧЫЛІ... АЛЕ Ў РЭШЦЕ РЭШТ ЯНЫ АПРЫТОМНЕЛІ. КАЛІ Я ЎБАЧЫЛА ІХ РАЗАМ УЧОРА НОЧЧУ, ТО Я ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ЯНЫ ШЧАСЛІВЫЯ.

ТО, ШТО ЯНЫ ЗМОГУЦЬ ВЯРНУЦЬ СВАЁ ЖЫЦЦЁ, ДАЕ МНЕ НАДЗЕЮ.

ГЭТАЕ МЕСЦА.... ШАНЕЦ ПАЧАЦЬ УСЁ НАНАВА... НОВАЕ МЕСЦА... УСЁ ДЛЯ НАС. КАЛІ ХОЦЬ ПАЛОВА ДАМОЎ УЦАЛЕЛА, ТО МЫ ЗАЖЫВЕМ ШЧАСЛІВА... ГЭТАЕ МЕСЦА... ЯНО ІДЭАЛЬНА.

Я ДУМАЮ, ШТО МОЖАМ БЫЦЬ ТУТ САПРАЎДЫ ШЧАСЛІВЫМІ.

І УСЕ, ХТО РАЗАМ З НАМІ. ЯНЫ ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ. НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ НЕ ПАВЕРУ, ШТО МЫ ПАМЫЛІЛІСЯ Ў ІХ. ЛЕПШЫХ СУСЕДЗЯЎ НЕ ПАЖАДАЕШ.

НАМ САПРАЎДЫ ПАШАНЦАВАЛА.



ДОБРАГА РАНКУ ЎСІМ. СЁННЯ ДОСЫЦЬ ВЯСЁЛАЯ ЧАСТКА. МЫ ПАДЗЕЛІМСЯ НА ГРУПЫ І АБШУКАЕМ УСЕ ДАМЫ... ЦІ ЯК МАГА БОЛЕЙ.

МЫ ШУКАЕМ КАНСЕРВЫ, ХАРЧАВАННЕ, АПТЭЧКІ І ЎСЁ ІСТОТНАЕ... УПЭЎНЕЦЕСЯ, ШТО ДОМ БЯСПЕЧНЫ І ШТО ТАМ НЯМА СХАВАЎШЫХСЯ ГАСЦЁЎ, ЯК БЫЛО Ў ГЭТЫМ ДОМЕ.

ТРЫМАЙЦЕ ЗБРОЮ Ў РУКАХ І РЫХТУЙЦЕСЯ, ДА ТАГО, ШТО ТРЭБА БУДЗЕ СТРАЛЯЦЬ. ГЭТА НЕБЯСПЕЧНА, ТАМУ БУДЗЬЦЕ ЎВАЖЛІВЫМІ.

І ЯШЧЭ, КАЛІ РАПТАМ У ЧАС ВОБШУКУ ВЫ ПАБАЧЫЦЕ ДОМ, ЯКІ ВАМ СПАДАБАЕЦЦА... ПАМЯТАЙЦЕ ПРА ЯГО. ЗДАЕЦЦА, ГЭТАГА БОЛЕЙ ЧЫМ ДАСТАТКОВА, КАБ ПАЧАЦЬ.










МАЯ КАМАНДА ПАЧЫНАЕ ПРАЗ ВУЛІЦУ, ТАЙРЫС, ТВАЯ – У СУСЕДНІ ДОМ. Я ЗАРАЗ ЗВЯРНУСЯ СА ЗБРОЯЙ.
ЗАЧЫСЦІЦЬ ДВАРЫ ТРЭБА ХУТКА. ДА ТАГО , ЯК МЫ ЎВОЙДЗЕМ У ДАМЫ.


ГЭТА БУДЗЕ ПАЦЕШНА... ЯК СЕРЫЯЛЫ, ТОЛЬКІ ЛЕПЕЙ.
АГА. ТОЛЬКІ КАЛІ ГЭТЫЯ ДАМЫ ПУСТЫЯ.


КЭРАЛ ДЫ Я ПРАВЕРЫМ ЗАДНІ ДВОР. МЫ ХУТКА.


ДОБРА, МЫ ПРАВЕРЫМ ГАРАЖ.
ДОБРА, МЫ ПРАВЕРЫМ ГАРАЖ.


МІЛАЯ, АСЬЦЯРОЖНА. НЕ СПЯШАЙСЯ ТАК. СПАЧАТКУ ПАГЛЯДЗІ Ў ВОКНЫ ЦІ ШТОСЬЦІ НА ГЭТА ПАДОБНАЕ. ПАЧАКАЙ, ПАКУЛЬ ТАЙРЫСУ НЕ ПРЫНЯСУЦЬ ЗБРОЮ І МЫ УВАЙДЗЁМ.


ТЫ ЗАНАДТА ХВАЛЮЕШСЯ.




УСЕ
МЁРТВЫЯ.
НЕ
ЎВАХОДЗІЦЬ


ШТО?


УСЕ
МЁРТВЫЯ.
НЕ
ЎВАХОДЗІЦЬ


ВОСЬ ХАЛЕРА.




АААAА!!!!


ХММГГ!!!

ААААГГ!!


АК!
...


ДОНА!!!


БОЖА!


НЕ СТРАЛЯЙЦЕ!!!
ШТО Б НІ РАБІЎ, НЕ СТРАЛЯЙ!


АДЫЙДЗІЦЕ АД ЯЕ!!!


АЛЕН, НЕ! ТЫ НІЧЫМ ЁЙ НЕ ЗМОЖАШ ДАПАМАГЧЫ! ТЫ ПРОСТА ДАСІ ІМ ЗАБІЦЬ СЯБЕ!
*ГХ*


BLAM!
НЕЕЕЕ!












НАМ ТРЭБА НЕАДКЛАДНА З'ЯЗДЖАЦЬ АДСЮЛЬ.


ШТО? ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ? ТУТ ШТОСЬЦІ НЕ ТАК?


АГА. НАМ ТРЭБА Ў ТРЭЙЛЕР І ХУТКА ЕХАЦЬ АДСЮЛЬ.


ВО ЛАЙНО!
ПАЙШЛІ! ЗБІРАЙ УСІХ У ТРЭЙЛЕР. Я ЗАБЯРУ АЛЕНА.


АЛЕН! ТРЭБА ВЫХОДЗІЦЬ!


НЕЕ. Я НЕ МАГУ... БЕЗ ЯЕ. ПАКІНЬ МЯНЕ, РЫК.
ПАКІНЬ МЯНЕ ТУТ.


НЕ, ХАЛЕРА ЦЯБЕ ДЗЯРЫ! ПАДУМАЙ ПРА ДЗЯЦЕЙ! ІМ ПАТРЭБНЫ БАЦЬКА! ІМ ПАТРЭБНЫ ТЫ! ЗАРАЗ БОЛЕЙ ЧЫМ КАЛІСЬЦІ.
Я НЕ ПАКІНУ ЦЯБЕ ТУТ.


КАЛІ МЫ
НЕ ЗЫЙДЗЕМ ЗАРАЗ,
МЫ АБОЕ ЗАГІНЕМ!


ПАЙШЛІ!


ДЭЙЛ!
ЗАВОДЗЬ ТРЭЙЛЕР!
НАМ ТРЭБА ХУТЧЭЙ
ЗВАЛІЦЬ АДСЮЛЬ!!!
ВЫ, ХЛОПЦЫ,
ДАПАМАЖЫЦЕ
НАМ ЗАБРАЦЬ
ДЗЯЦЕЙ!


БОЖА!
ЗА МНОЙ!


ШТО ЗА
СТРЭЛЫ?
ХАПАЙ ДЗЯЦЕЙ!
МЫ ВЫЯЗДЖАЕМ!


ДЗЕ ДЖУЛІ
ДЫ КРЫС?
ХАЛЕРА!
ЯНЫ НАВЕРСЕ.
Я ЗАБЯРУ ІХ,
БЯГІЦЕ Ў ТРЭЙЛЕР!


ДЗЕ ДОНА?
ПАМЕРЛА. ДЗЕ ТАЙРЫС?
БОЖА... Я...ЁН..... ЁН ВЯРНУЎСЯ ЗА КРЫСАМ І ДЖУЛІ.


ХАЛЕРА! КАЛІ ЗОМБІ ПАДЫЙДУЦЬ БЛІЖЭЙ – АД'ЯЗДЖАЙ! МЫ ПРАРВЕМСЯ! НЕ ХВАЛЮЙСЯ!


РЫК!


ХАЛЕРА.
ХАЛЕРА.
ХАЛЕРА.


BLAM!




BLAM!
ЛАЙНО!


ЯКОГО ЧОРТА ВЫ ТУТ РОБІЦЕ?!

ТАТА! МЫ ПРОСТА...

У НАС НЯМА ЧАСУ НА ГЭТА! АДЗЯВАЙСЯ ХУТЧЭЙ!

ЗНАЙШОЎ ІХ? ДОБРА. ГЭТЫМ ШЛЯХАМ МЫ ЗЫЙСЦІ НЕ ЗМОЖАМ. ЦІ ЁСЦЬ ІДЭІ?

SLAM!

АКНО!


ДОБРА.
А ШТО НАМ
РАБІЦЬ ЗАРАЗ?


ГЛЯДЗІ!
WHAM!


СКАЧЫ НА ДАХ!




ТРЫМАЙЦЕСЬ!
МЫ НА ДАХУ!




CHOOM!


ДЗЕ МАМУЛЯ?


ЯНА...
ТВАЯ МАЦІ
БЫЛА... Я...


ЯНА ПАМЁРЛА!
ТВАЯ МАЦІ ПАМЁРЛА!








ПРАБАЧ, АЛЕН. Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО І КАЗАЦЬ...
ТАДЫ НІЧОГА НЕ КАЖЫ. ПРОСТА ПАКІНЬ МЯНЕ.




Я ПРОСТА ХВАЛЮЮСЯ ЗА ЯГО.
А ШТО МЫ МОЖАМ ЗРАБІЦЬ? ТОЛЬКІ АДНА РЭЧ МОЖА "ПАПРАВІЦЬ" АЛЕНА – ВЯРНУЦЬ ЯГО ЖОНКУ. МЫ ГЭТАГА ЗРАБІЦЬ НЕ МОЖАМ.
ПРОСТА ДАЙ ЯМУ МАГЧЫМАСЦЬ ПАСУМАВАЦЬ – СТОЛЬКІ, КОЛЬКІ СПАТРЭБІЦЦА. ТЫ НЕ ВЕДАЕШ, ШТО ЗНАЧЫЦЬ ЗГУБІЦЬ ЖОНКУ, РЫК. ЁН ЗАРАЗ ПРАЗ ПЕКЛА ПРАХОДЗІЦЬ. Я ВЕДАЮ.


У НАС НЯМА НІ БАБОЎ, НІ КУКУРУЗЫ... ХАЛЕРА.... МЫ АМАЛЬ УСЁ ЗГУБІЛІ.
КАЛІ Б МЫ ПАСПЕЛІ ЎНЕСЦІ ХОЦЬ КАНСЭРВЫ...
БОЖА... ШТО ЖА МЫ БУДЗЕМ РАБІЦЬ ЗАРАЗ?


АСЬЦЯРОЖНА, ХЛОПЦЫ.... РЫХТУЙЦЕСЯ ДА ЎСЯГО.






ХТО ВЕДАЕ... ГЭТА ДРЭННА.
ХАЛЕРА.
УСЁ, ШТО НЕ ПАБРАНА, БЫЛО ЗНІШЧАНА. НАВОШТА КАМУСЬЦІ ГЭТА РАБІЦЬ?


ЯК МЫ ЗМОЖАМ ПРАЖЫЦЬ БЕЗ ЕЖЫ?
ЗДАЕЦЦА, НАМ ПРЫЙДЗЕЦЦА МНОГА ПАЛЯВАЦЬ У БУДУЧЫНІ.


МЫ ХУТКА ВЕРНЕМСЯ. НАВАТ, КАЛІ МЫ НІЧОГА НЕ ЗНОЙДЗЕМ. МЫ ВЕРНЕМСЯ ДА ТАГО, ЯК СЦЯМНЕЕ.
КАЛІ ШТОСЬЦІ ЗДАРЫЦЦА, СТРАЛЯЙ.
З НАМІ БУДЗЕ ЎСЁ ДОБРА, ЯК ТОЛЬКІ ВЫ ПРЫНЯСЕЦЕ ЕЖЫ.
Я ПАГЛЯЖУ, ШТО МОЖНА ЗРАБІЦЬ.


ЦІ МОЖНА МНЕ ПАЙСЦІ? Я ДАПАМАГУ. Я ДОБРА СТРАЛЯЮ.


Я ВЕДАЮ, ТЫ ЗМОЖАШ ПАЙСЦІ З НАМІ. АЛЕ НЕ СТРАЛЯЙ, ПАКУЛЬ Я НЕ ДАЗВОЛЮ. ГЭТА ВЕЛЬМІ ІСТОТНА. КАЛІ МЫ ЗНОЙДЗЕМ ШТОСЬЦІ, ТЫ НЕ ПАВІНЕН ГЭТА СПУГНУЦЬ.


ДОБРА, ТАТ.
МЫ ПАШЛІ. ГЛЯДЗІЦЕ ЗА АЛЕНАМ, ПАКУЛЬ НАС НЕ БУДЗЕ, ДОБРА?


ХТО ВЕДАЕ, ШТО ЗАРАЗ У ЯГО ГАЛАВЕ.
БАЮСЯ, ЁН МОЖА ПРЫНЕСЦІ ШКОДУ САБЕ... ЦІ НАВАТ ГОРШ...


ТЫ ДУМАЕШ, АЛЕН МОЖА НАШКОДЗІЦЬ САБЕ?
ЁН ПРАСІЎ МЯНЕ, КАБ Я ПАКІНУЎ ЯГО ПАМІРАЦЬ КАЛЯ ТЫХ ДАМОЎ ТЫДЗЕНЬ ТАМУ. Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО ЗАРАЗ З ІМ АДБЫВАЕЦЦА. Я НЕ ВЕДАЮ, НА ШТО ЁН ЗДОЛЬНЫ.


НЕ ДУМАЮ, ШТО ЁН ПРЫНЯСЕ ШКОДУ КАМУСЬЦІ ЯШЧЭ. АЛЕН ДОБРЫ БАЦЬКА І НАОГУЛЕ ДОБРЫ ХЛОПЕЦ. НЕ ДУМАЮ, ШТО ТАК ДАЛЁКА ЎСЁ ЗАЙДЗЕ.
І ЎСЁ Ж... ПАСЛЯ ТАГО, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ШЭЙНАМ... Я БОЛЕЙ НІЧОГА НЕ ВЕДАЮ.


ТАК, КЭРАЛ РАСПАВЯЛА МНЕ ПРА ГЭТЫМ НЯДАЎНА.


ШШШШШ!
ТЫ ЧУЎ?


Я ДУМАЮ, ШТО ШТОСЬЦІ ЁСЦЬ НЕДАЛЁКА АД НАС.













ПАКАЖЫСЯ!

КАЛІ ЛАСКА, НЕ СТРАЛЯЙЦЕ!

ГЭТА ВЫПАДКОВА, КЛЯНУСЯ!


ТЫ ШТО ЗРАБІЎ?!


РЫК!
Я...


ТЫ ШТО ЗРАБІЎ?!
МНЕ ШКАДА, ВЕЛЬМІ ШКАДА. Я ПАДУМАЎ, ШТО ВЫ...


ШКАДА?!
ТЫ ХОЦЬ ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ТЫ НАРАБІЎ?!


Я
ЗАБ'Ю
ЦЯБЕ!
ДАЛІБОГ
ЗАБ'Ю!







ЁН... ЖЫВЫ?

ЁН ЖЫВЫ?


ЁН ДЫШЫЦЬ?! ЁН ЖЫВЫ?
ШТО РАБІЦЬ? ШТО НАМ РАБІЦЬ? НАМ ТРЭБА... ШТО РАБІЦЬ?
ЁН ДЫШЫЦЬ, АЛЕ ЁН У НЕПРЫТОМНЫМ СТАНЕ. ЁН ЗГУБІЎ ШМАТ КРЫВІ. НАМ ТРЭБА ЯКІМ-НЕБУДЗЬ ЧЫНАМ СПЫНІЦЬ КРЫВАЦЯЧЭННЕ.
У НАС ПАВІННА БЫЦЬ ШТОСЬЦІ, КАБ ГЭТА ЗРАБІЦЬ!
ТАК, НАМ ТРЭБА СПЫНІЦЬ КРЫВАЦЯЧЭННЕ. У НАС ЁСЦЬ АПТЭЧКА Ў ТРЭЙЛЕРЫ. НАМ ТРЭБА АДНЕСЦІ ЯГО ТУДЫ.


Я... ФЕРМА, ДЗЕ Я ЖЫВУ... СЫНУ ГАСПАДАРА ФЕРМЫ ПРАСТРЭЛІЛІ НОГУ.
ЁН ВЫНУЎ КУЛЮ І ДОБРА ПАДЛЯЧЫЎ. ЁН ПРАЦУЕ З ЖЫВЁЛАЙ НА ФЕРМЕ.


ТЫ ДУМАЕШ, ЁН ДАПАМОЖА МАЙМУ СЫНУ?


ЁН НЕ ДОКТАР, АЛЕ Я ДУМАЮ ЁН ВЕДАЕ, ШТО РАБІЦЬ.
ДА ФЕРМЫ МЕНЕЙ МІЛІ.... МЫ ХУТКА ДОЙДЗЕМ ТУДЫ.


МЕНЕЙ МІЛІ? Я... ЗМАГУ... ТАЙРЫС, ДАПАМАЖЫ МНЕ ЗАВЯРНУЦЬ ЯГО Ў МАЮ КУРТКУ.


ДОБРА. ПАВОЛЬНА.


Я ПАЙДУ НА ГЭТУЮ ФЕРМУ. ТЫ ВЯРТАЙСЯ ДА ТРЭЙЛЕРА І РАСПАВЯДЗІ ЎСІМ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ. КАЛІ ДА ФЕРМЫ МЕНЕЙ МІЛІ, ВЫ ПАВІННЫ ЛЕГКА ЗНАЙСЦІ ЯЕ.
ЯЁ ЛЁГКА ЗНАЙСЦІ?
ВЫ МОЖАЦЕ ПАБАЧЫЦЬ ЯЕ З ДАРОГІ.... КАЛІ ВЫ СПЫНІЛІСЯ ВУНЬ ТАМ, ВЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ НА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ЧАЦВЁРТАЙ. ВАМ ТРЭБА З'ЕХАЦЬ З ДАРОГІ НАЛЕВА. ТРОХІ ДАЛЁКА АД ДАРОГІ, АЛЕ ВЫ ЯЕ ЗНОЙДЗІЦЕ.


ПАЙШЛІ.
ПАКАЗВАЙ ШЛЯХ. Я ЗА ТАБОЙ.
ТАЙРЫС, СКАЖЫ ЛОРЫ, ШТО НЕПАКОІЦЦА НЯМА АБ ЧЫМ.
ДОБРА.






ТАЙРЫС!!!


МЫ ЧУЛІ СТРЭЛ. ВЫ ЗНАЙШЛІ ШТОСЬЦІ. УСЁ ФА... ДЗЕ ЯНЫ?
ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?! ДЗЕ ЯНЫ?!
НЕЙКІ ХЛОПЕЦ ПРЫНЯЎ НАС ЗА ЗОМБІ. СТРЭЛІЎ У НАС! КАРЛА ЗАЧАПІЛА, АЛЕ З ІМ УСЕ ДОБРА, РЫК ДЫ ГЭТЫ ХЛОПЕЦ ПАЙШЛІ НА ФЕРМУ, КАБ ДРУГІ ХЛОПЕЦ ДАПАМОГ ЯМУ. З ІМ УСЁ ДОБРА. ЁН ПРОСТА... ЯНЫ ПАЙШЛІ...
ДЗЕ?! ДЗЕ ГЭТАЯ ФЕРМА?!
ДЗЕ?!


УГОРУ ПА ДАРОЗЕ! Я ВЕДАЮ, ЯК ПРАЕХАЦЬ!
ПАЕХАЛІ!


ДЗЕ ТВОЙ БАЦЬКА?
ЁН У ХАЦЕ. ШТО ЗДАРЫЛАСЯ, ОЦІС?
ХТО ГЭТА?
ЗАРАЗ НЯМА ЧАСУ.


ШТО ЗДАРЫЛАСЯ? ХТО ГЭТА? ШТО АДБЫВАЕЦЦА?


ХЛОПЧЫКА РАНІЛІ. ТРЭБА, КАБ ТЫ АГЛЕДЗЕЎ ЯГО.


НЯСІЦЕ ЯГО Ў ХАТУ! КУДЫ ЯГО РАНІЛІ? ЯК ЦЯЖКА?













ДЗЁ ЁН? ДЗЕ КАРЛ? З ІМ УСЁ ДОБРА?!


ГЭТЫ ХЛОПЕЦ ПРАЦУЕ НАД ІМ. ЗДАЕЦЦА, ЁН ВЕДАЕ, ШТО РОБІЦЬ.
ЁН СПЫНІЎ КРЫВАЦЯЧЭННЕ.


О, РЫК... ШТО Ж НАМ РАБІЦЬ?


Я НЕ ВЕДАЮ, ЛОРЫ. Я ПРОСТА НЕ ВЕДАЮ.




Я СКОНЧЫЎ. Я ВЫЦЯГНУЎ КУЛЮ І СПЫНІЎ КРЫВАЦЯЧЭННЕ. ЯМУ ВЕЛЬМІ ПАШАНЦАВАЛА. КУЛЯ ЗАСТРАЛА Ў ЯГО Ў ЛАПАТЦЫ... ТРЭБА БЫЛО ПАДАБРАЦЦА ПАД ПРАВІЛЬНЫМ ВУГЛОМ.
ЯШЧЭ ТРОХІ, І КУЛЯ ПАПАЛА Б У ЛЁГКАЕ. КАЛІ Б ТАКОЕ ЗДАРЫЛАСЯ... У МЯНЕ НЕ ХАПІЛА Б КВАЛІФІКАЦЫІ, КАБ ХОЦЬ ЧЫМСЦІ ДАПАМАГЧЫ ЯМУ.
ЁН УСЁ ЯШЧЭ Ў НЕПРЫТОМНАСЦІ. АЛЕ Я ДУМАЮ, ШТО ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА. УСЁ, ШТО МЫ МОЖАМ ЗАРАЗ РАБІЦЬ, – ГЭТА ЧАКАЦЬ.


ДЗЯКУЙ, МІСТЭР. Я САПРАЎДЫ...
МЯНЕ ЗАВУЦЬ ХЕРШЭЛ ГРЫН. НЕ ДЗЯКУЙ ЯШЧЭ, МАЛІСЯ ЛЕПЕЙ ЗА ХЛОПЧЫКА.
Я НЕ МАЛІЎСЯ ЎЖО КОЛЬКІ МЕСЯЦАЎ... Я ДУМАЮ, ШТО ЗАРАЗ ГЭТА НАМ ПАТРЭБНА.




ЗАРАЗ ДАВАЙЦЕ ПАЗНАЁМЛЮ З УСІМІ, ХТО ТУТ ЖЫВЕ.
















ГЭТА ОЦІС І ЯГО ДЗЯЎЧЫНА ПАТРЫЦЫЯ. ЯНЫ ЖЫВУЦЬ ВЫШЭЙ ПА ДАРОЗЕ. У НАС БОЛЬШ БЯСПЕЧНА, І ЯНЫ БУДУЦЬ З НАМІ, ПАКУЛЬ УСЁ ГЭТА НЕ СКОНЧЫЦЦА.
ГЭТА ЎСЕ, ХТО ТУТ ЁСЦЬ. АКРАМЯ ТЫХ ІСТОТ, ЯКІЯ ХОДЗЯЦЬ ЗВОНКУ.


ЛЭЙСІ, ТЫ НЕ МАГЛА Б ПАКАЗАЦЬ ІМ ФЕРМУ, КАБ ЯНЫ АЗНАЁМІЛІСЯ З МЕСЦАМ? Я ХАЧУ АГЛЕДЗЕЦЬ ХЛОПЧЫКА, ПЕРАКАНАЦЦА, ЧТО ЎСЁ ДОБРА.


ВЯДОМА, ЯК КАЖАШ.


ГЭТА НАШ ДВОР... КАЛІ ВЫ ПАРУШЫЦЕ ЗА МНОЙ, Я ПАКАЖУ НАШ ЗАДНІ ДВОР.
Я—ЭЭ.... БІЛІ, БЭН ДЫ Я ПАСЯДЗІМ ТУТ.
У МЯНЕ ПРОСТА НЯМА ЖАДАННЯ.


ДЗЕЦІ МОГУЦЬ ПАЙСЦІ З НАМІ. Я ДАГЛЯДЖУ ІХ, АЛЕН. ЯНЫ ПАЖАДАЮЦЬ ПАБАЧЫЦЬ КАРОЎ.


ДОБРА, ІДЗІЦЕ РАЗАМ З АНДРЭА, ХЛОПЧЫКІ.
АГА! Я ХАЧУ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА КАРОЎ.




ЁН ТАКІ ЦІХМЯНЫ. Я СПАДЗЯЮСЯ, ЁН БАЧЫЦЬ ЦУДОЎНЫЯ СНЫ І НАСАЛОДЖВАЕЦЦА ІМІ, НЕ ЗАЎВАЖАЕ ЎСЯГО ГЭТАГА ВАР'ЯТСТВА.
КАЛІ Б ЁН МОГ СПАЦЬ, ПАКУЛЬ УСЁ ГЭТА НЕ СКОНЧЫЦЦА.

БОЖУХНА, РЫК! МЫ Ж НЕ ЖАДАЕМ, КАБ ЁН УПАЎ У КОМУ!
ЯКІЯ ЖАХЛІВЫЯ РЭЧЫ ТЫ КАЖАШ.


Я НЕ ГЭТА ЖАДАЎ КАЗАЦЬ. Я... ХАЛЕРА! Я ПРОСТА ЖАДАЮ, КАБ ЯМУ НЕ ПРЫШЛОСЯ ПЕРАЖЫВАЦЬ УСЁ ГЭТАЕ ЛАЙНО РАЗАМ З НАМІ.
ГЭТА НЕСЛУШНА?
Я... О БОЖА, ЛОРЫ... Я ТАК ХВАЛЮЮСЯ ЗА НЯГО.



Я КАХАЮ ЦЯБЕ, ЛОРЫ. Я НЕ ВЕДАЮ, ЦІ ХОПІЦЬ ГЭТЫХ СЛОЎ. Я САПРАЎДЫ КАХАЮ ЦЯБЕ. Я ЗАЎСЁДЫ КАХАЎ ЦЯБЕ.
Я НЕ ВЕДАЮ, ЯК БЫ Я ЗАРАЗ ВЫТРЫМАЎ УСЁ ГЭТА БЕЗ ЦЯБЕ.
Я ТАКСАМА ЦЯБЕ КАХАЮ.
ВЕЛЬМІ МОЦНА.


ОЦІС, ТАК?
АГА.
НЕ ВЕДАЮ, ЦІ КАЗАЎ Я РАНЕЙ, Я ТАЙРЫС.
ЦІ ЎСЁ З ТАБОЙ ДОБРА?


Я І МУХІ НЕ ПАКРЫЎЖУ... У СЭНСЕ... Я І РАНЕЙ БЫВАЎ НА ПАЛЯВАННІ, АЛЕ НІКОЛІ НЕ ЗАБІВАЎ ЖЫВЁЛІН, ЯКІХ НЕ СТАЎ БЫ ЕСЦІ. Я РАХМАНЫ, НЕ ЛЮБЛЮ ГВАЛТ.
І Я... Я СТРЭЛІЎ У ТАГО ХЛОПЧЫКА. Я РАЗУМЕЮ, ЧАМУ РЫК ХАЦЕЎ ЗАБІЦЬ МЯНЕ. КАЛІ Б Я ЗАБІЎ ХЛОПЧЫКА... Я Б ХАЦЕЎ, КАБ ЁН МЯНЕ ЗАБІЎ... Я БЫЎ БЫ ВАРТЫ ГЭТАГА.
МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ НЕ ВЕДАЕМ, ЦІ ВЫЖЫВЕ ЁН...


НЕ МАГУ КАЗАЦЬ, ШТО БЫЎ ПРАВЫ, АЛЕ ЗА СВАЁ ЖЫЦЦЁ МОЖАШ НЕ ХВАЛЯВАЦЦА. ШТО ЗРОБЛЕНА, ТО ЗРОБЛЕНА. Я ХВАЛЮЮСЯ ЗА КАРЛА, АЛЕ НІ ТЫ, НІ Я НІЧОГА НЕ ЗМОЖАМ ЗРАБІЦЬ ЗАРАЗ.
РЫК ЗАРАЗ НАПРУЖАНЫ, ЯК І ЎСЕ МЫ. МЫ ТОЛЬКІ ЗАДАЛІ ДРАПАКА З АДНАГО КВАРТАЛУ, ЯКІ БЫЎ ПАЎНЮТКІ ЗОМБІ. НАШ СЯБАР ЗГУБІЎ ТАМ СВАЮ ЖОНКУ. І НЕ ПРАЙШЛО ТЫДНЯ, ЯК У СЫНА РЫКА СТРЭЛІЛІ.
ЁН ЗЛОМЛЕНЫ.


КВАРТАЛ? ГЭТА, НАПЭЎНА, ДВОР УІЛШЫР. ПАТРЫЦЫЯ І Я БЫЛІ ТАМ, КАЛІ ГЭТА ЎСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ. УСЕ, ХТО ТАМ БЫЎ І НЕ З'ЕХАЎ У АТЛАНТУ, ВЫРАШЫЛІ АДСЯДЗЕЦЦА ТАМ.
ГЭТА БЫЛА КАТАСТРОФА... У НАС НЕ БЫЛО АБАРОНЫ... АДНОЙЧЫ ГЭТЫЯ ПАЧВАРЫ ДАБРАЛІСЯ ДА НАС, І МЫ НЕ ЗМАГЛІ ІХ СПЫНІЦЬ. МЫ З ПАТРЫЦЫЯЙ ЛЕДЗЬ ВЫРАТАВАЛІСЯ АДТУЛЬ ЖЫВЫМІ.
НАС НЕ АБАРАНЯЛА НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГВАРДЫЯ, ЯК У АТЛАНЦЕ.


ДАРЭЧЫ, НАКОНТ АТЛАНТЫ... ТАМ УСЁ ЯШЧЭ ГОРШ.
ПРАЎДА? ПАТРЫЦЫЯ І Я ХАЦЕЛІ ПАЕХАЦЬ ТУДЫ, КАЛІ НАСТУПІЦЬ ЛЕТА. МЫ ДУМАЛІ, ШТО ТАМ БЯСПЕЧНА.
ХАЛЕРА.


FWOP!


ГЭЙ, ХЛОПЧЫКІ, ІДЗІЦЕ ПАГУЛЯЙЦЕ З ЦЁТКАЙ КЭРАЛ І САФІЯЙ. МНЕ ТРЭБА ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ З ВАШЫМ БАЦЬКАМ.
ДОБРА!


АЛЕН, ТРЭБА ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ.


А? ШТО ТАБЕ ТРЭБА?


ПАДУМАЙ ПРА СВАІХ ДЗЕЦЯХ. ТЫ ПАВІНЕН БЫЦЬ МОЦНЫМ ДЛЯ ІХ. Я ВЕДАЮ, ШТО ЦЯБЕ ЗАРАЗ СУМНА І МАЕШ УСЕ ПРАВЫ НА ГЭТА, АЛЕ ТЫ ПАТРЭБЕН ХЛОПЧЫКАМ.
ТЫ НЯ МОЖАШ ВОСЬ ТАК ЗАЧЫНІЦЦА.


ШТО? НА ХАЛЕРУ ТЫ ГЭТА КАЖАШ?! ПЕРАСТАЦЬ СУМАВАЦЬ?! ЖАДАЕШ ПАВЯРЦЕЦЬ ДУПАЙ ПЕРАДА МНОЙ І ХУЦЕНЬКА ЗАНЯЦЬ ЯЕ МЕСЦА?
ХАЛЕРА! Я ЗГУБІЎ СВАЮ ЖОНКУ, ТЫ, МАЛЕНЬКАЯ ЛЯРВА. НЕ МАГЛА Б ТЫ АДЧАПІЦЦА АД МЯНЕ З СВАІМІ РАЗМОВАМІ АБ СУМЕ?
ХРЭН ТАБЕ Ў ВОЧЫ!


ШТО?! ТЫ ДУМАЕШ, Я НЕ ВЕДАЮ ЯК ГЭТА – ЗГУБІЦЬ КАГОСЬЦІ?! Я ЗГУБІЛА СВАЮ СЯСТРУ, І Я ШТОСЬЦІ ВЕДАЮ АБ СУМЕ. Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ ЗАРАЗ ЦЕРАЗ ГЭТАЕ ПРАХОДЗІШ! Я ЗАЧЫНІЛАСЯ, КАЛІ ЗГУБІЛА ЭМІ. ЦЭЛЫМІ ДНЯМІ НЕ РАЗМАЎЛЯЛА... НЕ МАГЛА ДУМАЦЬ... І АМАЛЬ З'ЕХАЛА З ГЛУЗДУ...
У ЦЯБЕ НЯМА ТАКОЙ РАСКОШЫ! БЭНУ І БІЛІ ПАТРЭБЕН БАЦЬКА ТУТ І ЦЯПЕР. Я ПРОСТА СПРАБУЮ ДАПАМАГЧЫ ТАБЕ, ЕЛУПЕНЬ!

МАЯ ЖОНКА ПАМЁРЛА!

І МАЯ СЯСТРА ПАМЁРЛА, І ШЭЙН ПАМЁР, І ДЖЫМ ТАКСАМА! МАЕ БАЦЬКІ ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ЎЖО НЯБОЖЧЫКІ! УСЕ, КАГО Я ВЕДАЛА, ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ПАМЕРЛІ!
МАЕ СЯБРЫ, МАЯ СЯМ'Я, МАЕ СУСЕДЗІ, МАЕ СУПРАЦОЎНІКІ... УСЕ...
УСЕ Ў НАШАЙ ГРУПЕ СУПАКОІЛІСЯ, ПРЫНЯЛІ ГЭТА ЯК ФАКТ... МЫ ВЫЖЫЛІ. ГЭТА ЗМЯНІЛА НАША ЖЫЦЦЁ. І МЫ НІЧОГА НЕ МОЖАМ ЗРАБІЦЬ З ГЭТЫМ!
МЫ МОЖАМ ПРЫНЯЦЬ ГЭТА ЦІ НЕ. І ТВАІМ СЫНАМ ТРЭБА, КАБ ТЫ ПРЫНЯЎ І... СТАЎ САБОЙ!
ТЫ ПАТРЭБЕН ІМ! ДУМАЙ ПРА ГЭТА!

УСЁ, ШТО Я МАГУ, – ГЭТА ДУМАЦЬ ПРА ІХ! Я ТОЛЬКІ ГЭТА І РАБЛЮ! Я ДУМАЮ ПРА ТОЕ, ШТО ІМ ПРЫЙДЗЕЦЦА РАСЦІ БЕЗ МАЦІ... Я ДУМАЮ ПРА ТОЕ, ШТО ЯНЫ ПАСТАЛЕЮЦЬ... ЗАБУДУЦЬ ЯЕ... НАВАТ ЯЕ ТВАР НЕ ЗМОГУЦЬ УСПОМНІЦЬ.
ТЫ МАЛЕНЬКАЯ ПРАШМАНДОЎКА. НЕ ПАДЫХОДЗЬ ДА МЯНЕ З СВАІМІ ПАРАДАМІ. ТЫ НІЧОГА НЕ ВЕДАЕШ. І НЕ ДАПАМОЖАШ НІ КРОПЛІ.
Я ДУМАЮ ПРА ГЭТА, І МЯНЕ РАЗРЫВАЕ НА КАВАЛКІ!
ПАКІНЬ МЯНЕ АДНАГО!





ТВОЙ СЫН АПРЫТОМНЕЎ.


О, ДЗЯКУЙ БОГУ!


ДЗЕ МОЙ КАПЯЛЮШ?
О, СЫНОК! Я ВЕЛЬМІ ШЧАСЛІВЫ, ШТО ТЫ ПРАЧНУЎСЯ.




ЯК ТЫ СЯБЕ АДЧУВАЕШ? ЯШЧЭ БАЛІЦЬ?


МАЁ ПЛЯЧО ДРЭННА РУХАЕЦЦА...


НЕ ТУРБУЙСЯ, СЫНОЧАК. ТЫ АЧУНЯЕШ.


ЛЕПЕЙ НІКОМУ НЕ ЗАБІРАЦЬ МОЙ КАПЯЛЮШ!


НЕ ХВАЛЮЙСЯ, ХЛОПЧА, Я ЗАХАВАЎ ЯЕ.


НЕ ВАРТА. Я РАД, ШТО З ТАБОЙ УСЁ ДОБРА.
ДЗЯКУЙ, ТАЙРЫС!


РЫК, ОЦІС ВЕЛЬМІ НЕПАКОІЦЦА НА ГЭТЫ КОНТ. КАЛІ Б ТЫ МОГ... Я МАЮ НА ЎВАЗЕ, ШТО ЁН НАОГУЛ НАРМАЛЬНЫ ХЛОПЕЦ...


І ШТО Ж Я ЯМУ ЗМАГУ КАЗАЦЬ? "НІЧОГА СТРАШЭННАГА, ШТО ТЫ СТРЭЛІЎ У МАЙГО СЫНА"? ГЭТА Ж НЕРАЗУМНА. НЕ МАГУ Я ЎСЁ ГЭТА ПАКІНУЦЬ ВОСЬ ТАК. ЁН НЕАДКАЗНЫ.
ЁН НЕАДКАЗНЫ. КАЛІ ЁН НЕЎВАЖЛІВЫ ТАКІ, ЁН НЕ ПАВІНЕН ХАДЗІЦЬ ПА ЛЕСЕ З РУЖЖОМ НАПЕРАВЕС.
Я НЕ БАЧУ НІЧОГА ДРЭННАГА Ў...


ХТОСЬЦІ СТРАЛЯЎ У МЯНЕ?
ХТО?


О, СЫНОК, У ЛЕСЕ. ЧАЛАВЕК, ЯКОГА ЗАВУЦЬ ОЦІС. ЁН ВЫПАДКОВА СТРЭЛІЎ У ЦЯБЕ.
АЛЕ НЕ ХВАЛЮЙСЯ, ЛЮБЫ. УСЁ ЗАРАЗ ДОБРА І ТАБЕ БУДЗЕ ЛЕПЕЙ.


ОЦІС ДАПАМОГ МНЕ ПРЫНЕСЦІ ЦЯБЕ СЮДЫ, І ЯГО СЯБРА ХЕРШЭЛ ЛЯЧЫЎ ЦЯБЕ. МЫ БЫЛІ ТУТ, ПАКУЛЬ ТЫ БЫЎ У НЕПРЫТОМНАСЦІ. ЦЯБЕ ТУТ ШМАТ З КІМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ПАЗНАЁМІЦЦА.
МНЕ ПАДАБАЕЦЦА ЗНАЁМІЦЦА З НОВЫМІ ЛЮДЗЬМІ.


ЯК НАКОНТ ТАВАРЫСТВА? САФІЯ ЖАДАЕ ПАБАЧЫЦЬ КАРЛА.


ЗАХОДЗЬ, ЛОРЫ І Я ПОЙДЗЕМ З'ЯМО ШТОСЬЦІ. Я ЎПЭЎНЕНА, ШТО ЁН ЛЮБІЦЬ БЫЦЬ У ТАВАРЫСТВЕ.
ПАВОДЗЬ СЯБЕ ПРЫСТОЙНА, КАРЛ. АДПАЧНІ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК САФІЯ І КЭРАЛ ПАЙДУЦЬ.


ПАГЛЯДЗІ НА ІХ.
ТАК МІЛЕНЬКА ВЫГЛЯДЗЯЦЬ РАЗАМ.


НЯХАЙ ПАРАЗМАЎЛЯЮЦЬ.
ЦІ БЫЛО БОЛЬНА?
НЕ ВЕДАЮ... НЕ ПАМЯТАЮ. ДУМАЮ, ТАК. ЗАСТАНЕЦЦА ВЯЛІКАЯ АДМЕЦІНА!
КРУТА. АДМЕЦІНЫ ТАК СЭКСУАЛЬНЫ.
СЭКСУАЛЬНЫ? ТЫ НАВАТ НЕ ВЕДАЕШ, ШТО АЗНАЧАЕ ГЭТА СЛОВА.
ТАКСАМА ЯК І ТЫ!
НУ. АЛЕ Я НЕ КАЗАЎ ГЭТАГА...


ГЭТА АЗНАЧАЕ ПРЫГОЖЫЯ... ЗДАЕЦЦА.
АДМЕЦІНЫ НЕ МОГУЦЬ БЫЦЬ ПРЫГОЖЫМІ.


ЧМОК!


ФУУУУУ! ГІДОТА!


ЛОРЫ?
ЧЫ МАГУ ДАПАМАГЧЫ, ДЭЙЛ?


Я ШТОСЬЦІ СКАЖУ, А ТЫ ПАСЛУХАЙ. Я СТАРЫ ЧАЛАВЕК... ЗАНАДТА СТАРЫ, КАБ ВЕСЬЦІ ДЫСКУСІІ. КАЖУ ТАБЕ ГЭТА, КАБ ТЫ НЕ СПРАБАВАЛА СПРАЧАЦЦА. Я ПРОСТА КАЖУ ТО, ШТО КАЖУ, І НА ГЭТЫМ УСЁ.


РЫК – ГАЛОЎНАЯ ПАДПОРА ГЭТАЙ ГРУПЫ. ЁН – АДЗІНАЯ СТАБІЛЬНАСЦЬ, ЯКАЯ Ў НАС ЁСЦЬ. ЁН ГЭТА ВЕДАЕ. ТАМУ, КАЛІ ЁН НАПУЖАНЫ, ТАБЕ НЕ ТРЭБА КАЗАЦЬ ПРА ГЭТА. ЁН СТАРАЕЦЦА ГЭТАГА НЕ ПАКАЗВАЦЬ. НАМ ГЭТА ПАТРЭБНА.


Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО ТАМ БЫЛО Ў ЦЯБЕ З ШЭЙНАМ. Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО ЗА ІДЭІ ТЫ ПХАЕШ РЫКУ Ў ГАЛАВУ. АЛЕ КАЛІ ГЭТАЕ ДЗІЦЕ НЕ АД РЫКА... КАЛІ ЛАСКА, УНЯСІ ГЭТА Ў МАГІЛУ.
ІНАКШ ГЭТА ЗАБ'Е ЯГО. ГЭТА БУДЗЕ АПОШНЯЯ РЭЧ, ЯКАЯ ЯГО ЗЛАМАЕ. І НАМ ГЭТА НЕ ПАТРЭБНА.
Я НЕ АБВІНАВАЧВАЮ ЦЯБЕ НІ Ў ЧЫМ. ТАМУ ЦЯБЕ НЕ ПАТРЭБНА АБАРАНЯЦЦА. Я ПРОСТА ЖАДАЎ ВЫКАЗАЦЬ ТОЕ, ШТО ДУМАЮ, І АДЗНАЧУ, КАЛІ ТЫ ПРЫМЕШ ГЭТА.


Я ДУМАЮ, АБЕД ГАТОВЫ. ПОЙДЗЕМ ПАДСІЛКУЕМСЯ.




Я ЎРАЖАНЫ, ХЕРШЭЛ. ПАВІНЕН КАЗАЦЬ... У ВАС ТУТ УСЁ ДОБРА ЎЛАДКАВАНА.
Я ПАЙДУ АДНЯСУ КАРЛУ ТАЛЕРКУ, ПАКУЛЬ ЯШЧЭ ГАРАЧАЕ.
ДУМАЮ, Я ЗАРАЗ ВЕДАЮ, ЯК ТЫ СЯБЕ АДЧУВАЎ, КАЛІ ДАЛУЧЫЎСЯ ДА НАС З НАШЫМІ КАНСЕРВАМІ, ТАЙРЫС.


ПАВІНЕН СКАЗАЦЬ, ДРУЖА... ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ ЎРАЗІЛІ МЯНЕ БОЛЕЙ. ДУМАЮ, КАЛІ ТАК УСЁ ПОЙДЗЕ ДАЛЕЙ, НАСТУПНЫ, КАГО Я СУСТРЭНУ, БУДЗЕ ХЛОПЕЦ З ЧАТЫРОХЗОРКАВЫМ РЭСТАРАНАМ.






ГЛЕН, ТАК? НУ... ЧАМУ ТЫ ЎСТАВІЎСЯ НА СЯБРОЎКУ ГЭТАГА ЧОРНАГА ХЛОПЦА?
ТЫ НЕ ЗВОДЗІЎ ВАЧЭЙ З ЯЕ ЎВЕСЬ АБЕД.
А?


Я БАЧЫЛА, ШТО ТЫ НА ЯЕ ГЛЯДЗЕЎ. ЧАМУ?
ПАКУЛЬ НЕ ПРЫЙШОЎ ТАЙРЫС... ДУМАЮ, Я ПАКЛАЎ ВОКА НА КЭРАЛ... ЯНА ТРОХІ СТАРЭЙШАЯ ЗА МЯНЕ... АЛЕ ЯНА МНЕ ПАДАБАЕЦЦА.
МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО Я ТРОХІ ССУ, ШТО НІКОЛІ НЕ ЗРАБЛЮ СВОЙ ХОД.


ТАК, Я ДУМАЮ, ЯНА МІЛАЯ.


НАВАТ НЕ ТАМУ... У СЭНСЕ... НЕ ВЕДАЮ. УСЕ ЎЖО ПА ПАРАХ. ПРОСТА ЖАНЧЫН ПОБАЧ НЯ ТАК УЖО ШМАТ.
І ЎСЁ ГЭТА АДБЫВАЕЦЦА НАВОКАЛ МЯНЕ. Я НЕ ЖАДАЮ СКОНЧЫЦЬ У АДЗІНОЦЕ... У СЭНСЕ. Я ЖАДАЎ БЫ ЗАНЯЦЦА НЕКАЛЬКІ РАЗ СЭКСАМ ПЕРАД СМЕРЦЮ.
БОЖА, Я ЦЯБЕ НАВАТ НЕ ВЕДАЮ. ПРАБАЧ. НЕ ХАЦЕЎ ТАК АБЛАЖАЦЦА.


Я ПЕРАСПЛЮ З ТАБОЙ.


ЧАГО?
КАЛІ ГЭТА ЎСЁ, ШТО ТЫ ЖАДАЕШ, Я ПЕРАСПЛЮ З ТАБОЙ.


МОЙ ХЛОПЕЦ ЗНІК... МАЖЛІВА, ПАМЁР. КАЛІ ШЧЫРА, ВЫРАДКАМ ЁН БЫЎ. ТЫ ПЕРШЫ ХЛОПЕЦ, ЯКОГА Я БАЧУ ЗА ПЕРШЫЯ МЕСЯЦЫ. І ТЫ НЕ МОЙ СВАЯК, І НЕ ІДЫЁТ ОЦІС. ЯК ТЫ КАЗАЎ – ВЫБАР НЕБАГАТЫ.


ТРЭБА НАМ БЫЦЬ БОЛЬШ ДЗЕЙНЫМІ... ІНАЧАЙ СКОНЧЫМ У АДЗІНОЦЕ.
У ГЭТЫМ ЁСЦЬ СЭНС.
НУ ТАК ДАВАЙ ПЕРАСПІМ. ХОЧАШ?


ТАК.


ДОБРА, ТРЭБА ПАРАЗ-МАЎЛЯЦЬ.
ТААААAT!


НЕ "ТАТКАЙ", ЮНАЯ ЛЕДЗІ! ГЭТА НЕ МОЖА ПРАЦЯГВАЦЦА Ў МЯНЕ ПЕРАД НОСАМ. У МЯНЕ НЯМА ЧАСУ З ГЭТЫМ РАЗБІРАЦЦА.
Я НЕ ХАЧУ НЕПАКОІЦЦА ПРА ВАС, ДВУХ ДУРНЯЎ. НЕ ХАЧУ ЎВЕСЬ ЧАС ПІЛЬНАВАЦЬ ЗА ТАБОЙ, КАБ ЯКОГА-НЕБУДЗЬ ЛАЙНА НЕ ЗДАРЫЛАСЯ.
ЖАДАЕШ ЗАЦЯЖАРЫЦЬ? НЕ БАЧЫШ, НАКОЛЬКІ ГЭТА НЕБЯСПЕЧНА МОЖА БЫЦЬ? Я НЕ ВЕДАЮ, ЯК РЫК І ЛОРЫ АСІЛЬВАЮЦЬ ГЭТА.
ГЭТА НЕ ГУЛЬНЯ. Я ВЕДАЮ, ШТО ВЫ АБОЕ ДУМАЕЦЕ, ШТО КАХАЕЦЕ АДЗІН АДНАГО, АЛЕ ВЫ МАЛАДЫЯ, ДУМАЙЦЕ, ШТО РОБІЦЕ.


ЭХ...
ПРОСТА ТРЫМАЙ СВАЕ РУКІ ПРЫ СЯБЕ.


БАЧЫШ? Я КАЗАЎ ТАБЕ, ШТО НАМ ТРЭБА ГЭТА ЗРАБІЦЬ. Я ХАЧУ БЫЦЬ РАЗАМ З ТАБОЙ ВЕЧНА. І НЕ ХАЧУ, КАБ ТВОЙ БАЦЬКА СТАЯЎ НА НАШАМ ШЛЯХУ.
Я ВЕДАЮ... Я ПРОСТА НЕ ХАЧУ ГЭТАГА РАБІЦЬ, ПАКУЛЬ НЕ ПРЫЙДЗЕ ЧАС. НАМ ТРЭБА ПАЧАКАЦЬ.
ДОБРА, ДЖУЛІ. БУДЗЕМ ГУЛЯЦЬ ПА ТВАІХ ПРАВІЛАХ. АЛЕ Я НЕ БУДУ ЧАКАЦЬ ВЕЧНА.


МОЙ БАЦЬКА БЫЎ ГАСПАДАРОМ НА ГЭТЫМ МЕСЦЫ. Я ПРАЦАВАЎ НА ФЕРМЕ, АЛЕ МНЕ ГЭТА НІКОЛІ НЕ ПАДАБАЛАСЯ. Я ЖАДАЎ СТАЦЬ ВЕЦЕРЫНАРАМ. І СТАЎ. ПРАЦА З МАЛЕНЬКІМІ І ВЯЛІКІМІ ЖЫВЁЛІНАМІ БЫЛА МАІМ ПРЫЗНАЧЭННЕМ, І Я ЗАЙМАЎСЯ ГЭТЫМ МНОГІЯ ГАДЫ.
ПАСЛЯ СМЕРЦІ ЖОНКІ МАЯ ПРАКТЫКА СКОНЧЫЛАСЯ... ЯНА ЗАЎСЁДЫ ПАДТРЫМЛІВАЛА БІЗНЕС... УСЁ, ШТО Я РАБІЎ, ГЭТА ПРАЦАВАЎ З ЖЫВЁЛАЙ.


Я ШМАТ ЧАГО НЕ МАГУ РАБІЦЬ БЕЗ ЯЕ.


ШКАДА ГЭТА ЎСЁ ЧУЦЬ. КОЛЬКІ ГОД ПРАЙШЛО?


ЯНА ПАМЁРЛА ШЭСЦЬ ГОД ТАМУ, І З-ЗА ЗАВЯШЧАННЯ БАЦЬКІ Я ВЯРНУЎСЯ І СТАЎ ПРАЦАВАЦЬ НА ФЕРМЕ.
ЗДАЕЦЦА, Я ЎСЁ ЗРАБІЎ ПЭЎНА.


ТУТ Я ЎЖО ПЯЦЬ ГОД. ГЭТА ЛЁГКАЯ ПРАЦА. Я ЗАРАЗ РАЗУМЕЮ, ЧАМУ БАЦЬКА ТАК ЛЮБІЎ ГЭТЫМ ЗАЙМАЦЦА. ПРОСТА ЖЫВЕШ НА ЗЯМЛІ... ЗАБЯСПЕЧВАЕШ САМ СЯБЕ. ВЕДАЕШ, АДКУЛЬ БЯРЭЦЦА КОЖНЫ КАВАЛАК ЕЖЫ, ЯКУЮ ТЫ ЯСІ.
АСАБЛІВА ПАЧЫНАЕШ ГЭТА РАЗУМЕЦЬ У ТАКІХ АБСТАВІНАХ.
АГА. ЗДАЕЦЦА, ВЫ ТУТ ДОБРА І СТАБІЛЬНА ЎЛАДКАВАЛІСЯ.

ЗАПРАШАЮ ВАС АДТРЫМЛІВАЦЬ АСАЛОДУ, ПАКУЛЬ КАРЛ НЕ АЧУНЯЕ. РАЮ ПАБЫЦЬ ТУТ ДА ГЭТАГА ЧАСУ.

У НАС НЕ ТАК ШМАТ ПАКОЯЎ У ХАЦЕ, ТАМУ ВАМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЯК І РАНЕЙ СПАЦЬ У ТРЭЙЛЕРЫ. АЛЕ Ў НАС ДАСТАТКОВА ЕЖЫ, І ТУТ ВАМ НЕ ТРЭБА ТУРБАВАЦЦА ПРА БЯСПЕКУ.

А ЯК НАКОНТ КЛЕЦІ? Я ДУМАЮ, МАЖЛІВА МЫ ТАМ ПАЖЫВЁМ? ШМАТ КАГО З НАС ЗАДЗЯЎБАЎ ТРЭЙЛЕР.

КЛЕЦЬ? ТЫ НЕ ПАЖАДАЕШ ІСЦІ ТУДЫ.

КЛЕЦЬ? ТЫ НЕ ПАЖАДАЕШ ІСЦІ ТУДЫ.


"НАШЫХ МЕРЦВЯКОЎ?" ШТО ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ, КАЛІ КАЖАШ "НАШЫХ МЕРЦВЯКОЎ"?


ТЫ ВЕДАЕШ... МЕРЦВЯКІ — УСЕ ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЎСТАЮЦЬ І БАДЗЯЮЦЦА НАВОКАЛ ПАСЛЯ СВАЁЙ СМЕРЦІ. ГЭТА АДЗІНАЯ ПРЫЧЫНА ЎСЕХ ПРАБЛЕМ.




І ТЫ ЎТРЫМЛІВАЕШ ГЭТЫХ... ІСТОТ У СВАЁЙ КЛЕЦІ... НА СВАЁЙ ТЭРРЫТОРЫІ... ТАК БЛІЗКА ДА ХАТЫ?


ТАК, МЫ ПРАТРЫМАЕМ ІХ У КЛЕЦІ ПАКУЛЬ МЫ НЕ ВЫЗНАЧЫМ, ЯК ІМ ДАПАМАГЧЫ. І ШТО ТЫ ЗБІРАЕШСЯ РАБІЦЬ З ГЭТЫМ?


ШТО, ТЫ ДУМАЕШ, МЫ ПАВІННЫ ЗРАБІЦЬ З ГЭТЫМ? СКАЖЫ САБЕ, ШТО ЯНЫ ПАМЕРЛІ. СТРЭЛЬ ІМ У БОШКУ. ЗРАБІ ГЭТА.
МЫ ПАВІННЫ ЗАБІЦЬ ІХ.

ЗАБІЦЬ ІХ?! ТЫ ХОЧАШ ПРОСТА ЗАБІЦЬ ІХ?!










МЫ ПОЙДЗЕМ ЗАРАЗ У ГЭТУЮ КЛЕЦЬ І ПРАСТРЭЛІМ СУЧЧУ ГАЛАВУ КОЖНАГА З ІХ. ГЭТА НЕ СХОВІШЧА ДЛЯ ЗОМБІ! НАМ ПАТРЭБНА ЗАБІЦЬ ІХ ДА ТАГО, ЯК ЯНЫ ЗАБ'ЮЦЬ НАС!


МОЙ СЫН - АДЗІН З ІХ, ХАЛЕРА!


ТВОЙ СЫН?


ШОНА ЎКУСІЛІ ПЕРАД ТЫМ, ЯК МЫ ЎСТАЛЯВАЛІ АГАРОДЖУ НАВОКАЛ ХАТЫ... Я... СПРАБАВАЎ ДАПАМАГЧЫ ЯМУ... ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ЁН ПАМЕР...І СТАЎ АДНІМ З ІХ.
Я НЕ ВЕДАЎ, ШТО МНЕ РАБІЦЬ. І Я ТРЫМАЎ ШОНА Ў КЛЕЦІ. ЁН СПРАБАВАЎ НАПАСЦІ НА НАС... КАБ... ЗАБІЦЬ НАС. Я НЕ ЗМОГ ЗАБІЦЬ ЯГО. Я НЕ ЗМОГ ПРЫМУСІЦЬ СЯБЕ ЗРАБІЦЬ ГЭТА. КАЛІ МЫ ЗНАХОДЗІЛІ ДРУГІХ... МЫ ПРОСТА... МЫ ПРОСТА ЗАЧЫНЯЛІ ІХ У КЛЕЦІ.


ХЕРШЭЛ, МНЕ... МНЕ САПРАЎДЫ ШКАДА. ШЧЫРА. Я І НЕ ДАГАДВАЎСЯ, ШТО З ТАБОЙ ТАКОЕ АДБЫЛОСЯ. КАЛІ Б Я ЗГУБІЎ КАРЛА... Я НЕ... Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО Б Я РАБІЎ ДАЛЕЙ.


Я НЕ ДУМАЮ, ШТО МОГ БЫ ЖЫЦЬ БЕЗ МАЙГО СЫНА... АЛЕ ТЫ ПАВІНЕН ПАСЛУХАЦЬ МЯНЕ. ХЕРШЭЛ. ГЭТАЯ ІСТОТА Ў КЛЕЦІ - НЕ ТВОЙ СЫН.


УБЯРЫ СВАЕ СУЧЧЫ РУКІ АД МЯНЕ!
THAP!


НЕ МОЙ СЫН?! ШТО РОБІЦЬ ЦЯБЕ ТАКІМ АФІГЕННЫМ ЭКСПЕРТАМ?! НЕ ВЕДАЮ, ЯК ТЫ, АЛЕ ЗОМБІ НАВОКАЛ ГЭТАГА МЕСЦА НЕ ХОДЗЯЦЬ З ІНСТРУКЦЫЯЙ ПА ВЫКАРЫСТАННЮ.
МАЖЛІВА ГЭТЫЯ ІСТОТЫ ПРАКІНУЦЦА ЗАЎТРА І БУДУЦЬ ІЗНОЎ НАРМАЛЁВА ІСНАВАЦЬ!
МЫ НЕ ВЕДАЕМ НІЧОГА ПРА ІХ. МЫ НЕ ВЕДАЕМ, ПРА ШТО ЯНЫ ДУМАЮЦЬ... ШТО АДЧУВАЮЦЬ. МЫ НЕ ВЕДАЕМ, ЦІ ХВАРОБА ГЭТА, ЦІ НЕЙКІ ПАБОЧНЫ ЭФЕКТ НЕЙКАЙ ХІМІЧНАЙ ВАЙНЫ. МЫ НЕ ВЕДАЕМ ГЭТАГА ЛАЙНА!
МЫ НІЧОГА НЕ ВЕДАЕМ! ТЫ МОЖАШ ЗАБІЦЬ УСЕХ ГЭТЫХ ЛЮДЗЕЙ, ТЫ: "ПАЗБАВЬ ІХ АД ПАКУТ".


ЯНЫ ПАМІРАЮЦЬ. ПОТЫМ ЯНЫ ВЯРТАЮЦЦА... ПОТЫМ ЯНЫ СПРАБУЮЦЬ З'ЕСЦІ ЦЯБЕ. ТЫ КАЗАЎ, ШТО ТВОЙ СЫН ПАМЁР. ЯНЫ МЁРТВЫЯ. ТАЯ ІСТОТА, СМЯРДЗЮЧЫ ТРУП.. ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ НЕ ХВОРЫЯ... ЯНЫ МЁРТВЫЯ.


РЫК, ПАСЛУХАЙ. ГЭТЫЯ ІСТОТЫ МОГУЦЬ БЫЦЬ НА РАННЯЙ СТАДЫІ АЧУНЬВАННЯ... І ГЭТЫЯ ІСТОТЫ ПРАЦУЮЦЬ НЕ НАРМАЛЁВА. ДАКЛАДНА НАМ ГЭТА НЕВЯДОМА. У НАС НЯМА КЛЮЧЫКА, КАБ ВЫПРАВІЦЬ ГЭТА.
І МНЕ НЕ ПАТРЭБНА КРОЎ НА МАІХ РУКАХ, КАЛІ МЫ НЕ ВЫСВЕТЛІМ, ЯК ЗРАБІЦЬ ГЭТЫХ ЛЮДЗЕЙ ЖЫВЫМІ.


НЕ.
ЯНЫ МЁРТВЫЯ! Я БАЧЫЎ ГЭТУЮ ПОСКУДЗЬ З ЯЕ ЧОРТАВЫМІ ВАНТРОБАМІ, ЯКІЯ ЗВІСАЛІ. ТОЕ, ШТО ТЫ КАЖАШ, НЕ МАЕ НАВАТ КРОПЛІ ЗДРАВАГА СЭНСУ.


РЫК! МЫ ТУТ ГОСЦІ, ДРУЖА. МЫ НЕ МОЖАМ ДЫКТАВАЦЬ СВАЕ ПРАВІЛЫ.
ПРОСТА СПЫНІСЬ.


ТЫ ПРАЎ, ТАЙРЫС. ПРАБАЧ.
КОЛЬКІ ІХ ТУТ?


СОРАК.
МЫ АБХОДЗІЛІ СУСЕДНІЯ ХАТЫ, КАБ ПАПОЎНІЦЬ ЗАПАСЫ... КОЎДРЫ, КЕРАСІН. УСЕ НАШЫ СУСЕДЗІ ПЕРАТВАРЫЛІСЯ. БОЛЬШАЯ ЧАСТКА - ГЭТА ЯНЫ І ІХ ДЗЕЦІ. І НЕКАЛЬКІ ТЫХ, ХТО БАДЗЯЎСЯ КАЛЯ ФЕРМЫ.
ЯНЫ НЕ ЗМОГУЦЬ ВЫБРАЦЦА З КЛЕЦІ. МЫ ЯЕ ДОБРА ЗАЧЫНЯЕМ. МЫ ТУТ У ПОЎНАЙ БЯСПЕЦЫ. ВАМ НЯМА АБ ЧЫМ ХВАЛЯВАЦЦА.


КАЛІ ТЫ ТАК КАЖАШ. Я ПАВЕРЫЎ ВАМ АДНОЙЧЫ.
СПАДЗЯЮСЯ, ТЫ ПРАВЫ.


...




...ХАДЗЯЧЫЯ МЕРЦВЯКІ #11
Пераклад Алены Васільковай
АЛЕН?


ТЫ ОКЕЙ?


Я НЕ ВЕДАЮ, РЫК. ТАК БЫЛО НЕКАТОРЫ ЧАС, ТАМУ ШТО Ў МЯНЕ БЫЎ СВОЙ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ НА "ОКЕЙ".


КОЛЬКІ ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ЗАСТАВАЦЦА ЗВОНКУ? ТУТ ХОЛАДНА.


Я ПРОСТА НЕ МАГУ СПАЦЬ ТУТ. ТЫ ВЕДАЕШ, Я СЯДЖУ І ДУМАЮ АБ ТЫМ, ЯК МЫ ЗВЫЧАЙНА СПАЛІ НА ТЫМ МЕСЦЫ КАЛЯ КУШЭТКІ, І ШТО ТАМ ЯЕ БОЛЕЙ НЕ БУДЗЕ.
Я НЕ МАГУ ПЕРАСТАЦЬ ДУМАЦЬ АБ ЁЙ.


МІНУЛАЙ НОЧЧУ... Я КЛЯНУСЯ, Я ЧУЎ, ЯК ДОНА РАЗМАЎЛЯЛА СА МНОЙ. Я ЛЯЖАЎ ТАМ ДЫ СПРАБАВАЎ ПАСНУЦЬ, А ЯНА УСЁ ПРАЦЯГВАЛА КАЗАЦЬ "ПАКЛАПАЦІСЯ ПРА МАІХ ХЛОПЧЫКАЎ". ГЭТА БЫЛО ЗРАЗУМЕЛА ЯК ДЗЕНЬ. НІБЫ ЯНА СЯДЗЕЛА КАЛЯ МЯНЕ.
МНЕ ЗДАЕЦЦА, Я З'ЕХАЎ З ГЛУЗДОЎ.


ТЫ АСІЛІШ ГЭТА, МУЖЫК. НЕ ХВАЛЮЙСЯ.


Я НЕ ВЕДАЮ, МУЖЫК... ЧАСАМ... Я ДУМАЮ АБ ТЫМ, ЯК ДУЖА Я ХАЧУ ПАМЕРЦІ, І ГЭТА... ПУЖАЕ МЯНЕ.
Я ЛЮБЛЮ СВАІХ ХЛОПЧЫКАЎ... Я ВЕДАЮ, ШТО Я ІМ ПАТРЭБНЫ, АЛЕ ЧАСАМ Я ДУМАЮ, ШТО ТАК БУДЗЕ ПРАСЦЕЙ. ТЫ РАЗУМЕЕШ?
ТЫ ПАВІНЕН СУПАКОІЦЦА, АЛЕН. ТЫ МАЕШ ПОЎНАЕ ПРАВА СУМАВАЦЬ ЦІ РАБІЦЬ ШТОСЬЦІ, КАБ ЗАБЫЦЬ ГЭТА... АЛЕ ТЫ ПАВІНЕН БЫЦЬ ТУТ ДЗЕЛЯ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ. ТЫ ПАТРЭБНЫ ІМ.
ТЫ НЕ...
ОХ ,УХХ... ПРЫВІТАННЕ, ХЛОПЦЫ. Я НЕ МАГУ ЗАСНУЦЬ. ПАЙДУ... ПАДЫШУ СВЕЖЫМ ПАВЕТРАМ.


НЕ ХВАЛЮЙСЯ, РЫК, Я НЕ БУДУ АДЫХОДЗІЦЬ ВЕЛЬМІ ДАЛЁКА.
БУДЗЬ АСЦЯРОЖНЫ, ГЛЕН, СЁННЯ ЎВЕЧАРЫ ДАВОЛІ ЦЁМНА.


Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ТЫ КАЗАЎ, РЫК. ПРОСТА ГЭТА ЖОРСТКА. УСЁ ВЕЛЬМІ ЖОРСТКА.


Я ВЕДАЮ, АЛЕН... НІЧОГА НЯМА ЛЁГКАГА БОЛЕЙ.
НІЧОГА...


ДОБРАГА РАНКУ, ХЕРШЭЛ.

ОХ, І ТАБЕ ДОБРАГА РАНКУ.
ТВАЯ КАМАНДА ДОБРА СПАЛА ГЭТАЙ НОЧЧУ?

ТАК, У ІХ З'ЯВІЎСЯ ДАДАТКОВЫ ПАКОЙ У ТРЭЙЛЕРЫ, ТАМУ ШТО ЛОРЫ І Я ЗАСТАЛІСЬ З КАРЛАМ У ВАШАЙ ХАЦЕ УЧОРА ВЕЧАРАМ.
ДУМАЮ, ШТО ЯНЫ ВЫСПАЛІСЯ, ЯК РАНЕЙ. МЫ ЎЖО НЕ МОЖАМ АДТРЫМ-ЛІВАЦЬ СТОЛЬКІ СНА, ЯК КАЛІСЬЦІ. НІХТО З НАС.
Я ЎЖО ДАЎНО НЕ СПЛЮ ДОБРА НОЧЧУ.

Я НЕ ЎЯЎЛЯЮ САБЕ, ЯК ВЫ МАГЛІ РАБІЦЬ ГЭТА Ў СВАІМ ЛАГЕРЫ. Я НЕ АДЧУВАЮ САБЕ Ў БЯСПЕЦЫ, НАВАТ КАЛІ СПЛЮ Ў СЯБЕ Ў ХАЦЕ.

СЛУХАЙ, ХЛОПЕЦ, ПРАБАЧ МЯНЕ ЗА МІНУЛЫ ВЕЧАР. Я САПРАЎДЫ НЕ ЖАДАЎ НАСКОКВАЦЬ НА ЦЯБЕ З УСІМ ГЭТЫМ ЛАЙНОМ. Я ПЕРАГНУЎ ТРОХІ. З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК КАРЛА ПАДСТРЭЛІЛІ, Я МОЦНА НЯРВУЮСЯ.

Я РАЗУМЕЮ. МЫ ЎСЕ ТРОХІ НЯРВУЕМСЯ, ГЭТА НАРМАЛЬНА. Я НЕ ПАКРЫЎДЖАНЫ.

І ЯШЧЭ, Я ХАЧУ, КАБ ТЫ ВЕДАЎ. ДЛЯ МЯНЕ ШМАТ ЗНАЧЫЦЬ ТОЕ, ШТО ТЫ ЗРАБІЎ ДЛЯ КАРЛА, І ТОЕ, ШТО ТЫ ДАЗВОЛІЎ НАМ ЗАСТАЦЦА Ў ТВАЁЙ ХАЦЕ.


НЕ ВАРТА.
Я ПРОСТА ЗРАБІЎ ТОЕ, ШТО МОГ, КАБ ДАПАМАГЧЫ СВАІМ БРАТАМ.
ДОБРА, У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ... Я ЖАДАЮ ДАЦЬ ЦЯБЕ І ТВАЁЙ СЯМ'І НЕКАЛЬКІ НАШЫХ СТРЭЛЬБАЎ. МЫ ЗДЗЕЙСНІЛІ НАБЕГ НА ЗБРОЙНУЮ КРАМУ, КАЛІ МЫ БЫЛІ Ў АТЛАНЦЕ. У НАС ІХ БОЛЕЙ ЧЫМ ДАСТАТКОВА.
У НАС ЁСЦЬ ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ ЗАПАСНЫХ. ТРЫ ПІСТАЛЕТЫ ДЫ ВІНТОЎКА. МЫ ДУМАЕМ, ШТО ВЫ БЫ МАГЛІ ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ ІХ. ЯШЧЭ МЫ ДАДЗІМ ПАТРОНАЎ, АЛЕ НЯШМАТ.


ШТО Ж, ДЗЯКУЙ, РЫК. МЫ НЕ АСАБЛІВА ІМІ КАРЫСТАЕМСЯ, АЛЕ Я ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЯНЫ СПАТРЭБЯЦЦА, КАЛІ ЯНЫ БУДУЦЬ ПАТРЭБНЫ.
Я ЗБІРАЮСЯ ЗРАБІЦЬ МІШЭНЬ ДЛЯ ТРЭНІРОЎКІ ЛЮДЗЕЙ, У БОЛЬШАСЦІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ. І ТЫ ПРЫХОДЗЬ. Я ТАКСАМА БУДУ НАВУЧАЦЬ БЯСПЕЧНАМУ ВЫКАРЫСТАННЮ ЗБРОІ. ШТО НАМ САПРАЎДЫ НЕ ПАТРЭБНА, ТАК ГЭТА НЕПАДРЫХТАВАНЫЯ ЛЮДЗІ З НАБІТАЙ ЗБРОЯЙ. ТУТ І БЕЗ ГЭТАГА НЕБЯСПЕКІ ХАПАЕ.
МНЕ ЧАКАЦЬ ЦЯБЕ?


ЛЭЙСІ, АРНОЛЬД... І, Я ДУМАЮ, ШТО МЭГІ МОГУЦЬ ПАСПРАБАВАЦЬ. МНЕ НЕ ХОЧАЦЦА ЗАЦЯГВАЦЬ ДРУГІХ. ЯНЫ ЯШЧЭ ЗАНАДТА МАЛАДЫЯ, КАБ НАСІЦЬ АГНЯСТРЭЛЬНУЮ ЗБРОЮ. ТВОЙ СЫН, КАРЛ, ВЕЛЬМІ ДОБРА ЎПРАЛЯЕЦЦА З ЁЮ, АЛЕ МАІ ДЗЕЦІ НЕ РАСЛІ КАЛЯ ЗБРОІ, ЯК ЗДАГАДВАЮСЯ, ЁН РОС.
Я ЗРАЗУМЕЎ. Я АПЫТАЮ ЎСІХ СЁННЯ.
ТЫ МОЖАШ ПАКЛІКАЦЬ ПАТРЫЦЫЮ, ДЗЯЎЧЫНУ ОЦІСА. КАЛІ ТОЛЬКІ ЯНА ПАЖАДАЕ ПРЫЙСЦІ. Я ДУМАЮ, ШТО ГЭТА ДАПАМОЖА АДЧУВАЦЬ СЯБЕ Ў БОЛЬШАЙ БЯСПЕЦЫ, КАЛІ ЯНА НЕ ЗМОЖА РАЗЛІЧВАЦЬ НА ОЦІСА ДЛЯ АБАРОНЫ.
ТЫ ПРАВЫ.


ЭЙ, АЛЕН.


НЕ ЗРАЗУМЕЛА НАМЁКУ? МНЕ НЯМА ЧАГО ТАБЕ РАСПАВЕСЦІ. КАЦІСЬ АДСЮЛЬ КІЎБАСКАЙ І ДАВАЙ ПАРАДЫ ЛЮДЗЯМ АДНОСНА ТЫХ РЭЧАЎ, АБ ЯКІХ ТЫ НІЧОГА НЕ ВЕДАЕШ. ІДЗІ І РАБІ ГЭТА Ў ДРУГІМ МЕСЦЫ.


ЗАРАЗ ЖА СПЫНІСЬ! ХАЛЕРА...
ПРАБАЧ, АЛЕН. Я НЕ ЗБІРАЛАСЯ ЗЛАВАЦЬ ЦЯБЕ.
НЕ, ДЭЙЛ, УСЁ ДОБРА. ІДЗЕМ.


ЗА ДУРНЯ МЯНЕ ТРЫМАЕЦЕ.




САФІЯ ІЗНОЎ ГУТАРЫЦЬ З КАРЛАМ. КЛЯНУСЯ... ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ ГОД, І МЫ БУДЗЕМ ВЫМУШАНЫ САЧЫЦЬ ЗА ГЭТАЙ ПАРАЧКАЙ, БО ЗАНАДТА ДОБРА ЯНЫ ГУЛЯЮЦЬ ДЛЯ ІХ УЗРОСТУ.
ЭЙ, ДЗЕ ТЫ ЎЗЯЛА ГЭТА?


О, КНІЖКУ? У СТАРЭЙШЭЙ ДАЧКІ ХЕРШЭЛА ЦЭЛАЯ КАЛЕКЦЫЯ, І Я НАВАТ НЕ ЎЯЎЛЯЛА, КОЛЬКІ ЧЫТАННЯ Я ПРАПУСЦІЛА. ГЭТА ПАЦЕШНА, ШТО МЫ ПАЧЫНАЕМ ЦАНІЦЬ, ТОЛЬКІ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЗГУБІЛІ.


КАЖЫ ЗА СЯБЕ... Я Б ЗАБІЎ ЗА ГУЛЬНІ "ВІКІНГАЎ", І Я ДУМАЮ ПРА ГЭТА ЎВЕСЬ ЧАС ЦЭЛЫ ТЫДЗЕНЬ.
Я РАЗУМЕЮ ЦЯБЕ. ХАЦЕЎ БЫ Я ВЕДАЦЬ, ЯК "РАЙДЭРС" ГЭТА РОБЯЦЬ. КАЛІ І ЁСЦЬ КАМАНДА, ЯКАЯ МАГЛА Б ГЭТА ЎСЁ ПЕРАЖЫЦЬ, ТАК ГЭТА ЯНЫ.
СЛУХАЙЦЕ... КРЫС І ДЖУЛІ ІДУЦЬ СЁННЯ ПАСТРАЛЯЦЬ З НАМІ, ТАК? МОЖА, ТРЭБА ПАКІНУЦЬ ІМ ЗБРОЮ НАЗАЎСЁДЫ?


НАВАТ НЕ ВЕДАЮ, ДРУЖА. МНЕ ЯНА ПАТРЭБНА, КАБ БЫЦЬ У БЯСПЕЦЫ І АДЧУВАЦЬ САБЕ Ў БЯСПЕЦЫ, АЛЕ Я НЕ ДУМАЮ, ШТО ЯНЫ ПАДРЫХТАВАНЫЯ ЎВЕСЬ ЧАС ТРЫМАЦЬ ПУШКІ ПРЫ СЯБЕ. МАЖЛІВА ПАЗНЕЙ, ПРАЗ ПАРУ ЗАНЯТКАЎ, ЯНЫ БУДУЦЬ ЛЕПЕЙ ТРЫМАЦЬ У РУКАХ ГЭТЫЯ ШТУКІ... АЛЕ Я НЕ ДУМАЮ, ШТО НАВАТ ТАДЫ Я БУДУ АДЧУВАЦЬ СЯБЕ ДОБРА.
ЯНЫ ПАДЛЕТКІ... Я НЕ МАГУ ВЕДАЦЬ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА Ў ІХ ГАЛОВАХ.


ЗРАЗУМЕЛА. ШТО КАЖАШ, МЫ Ж ПАВІННЫ ГЛЯДЗЕЦЬ У БУДУЧЫНЮ, КЭРАЛ?


НЕЕЕЕ. Я РАЗМАЎЛЯЛА З САФІЯЙ. ЯНА НЕ ВОЗЬМЕ ЗБРОЮ Ў РУКІ РАНЕЙ ДВАЦЦАЦІ.


ВЫ ПАДРЫХТАВАНЫ? ХЛОПЦЫ, Я ДАЎ ВАМ ЗБРОЮ МАЛОГА КАЛІБРУ. ТАКІМ ЧЫНАМ, КАРЫСТАЦЦА ІМ БУДЗЕ ПРАСЦЕЙ.
ПАЧНЕМ!
ТАК, ГЭТА БУДЗЕ ВЕСЕЛА!
PKOW!


ГЭТА НЕ ГУЛЬНЯ, ДЖУЛІ. ГЭТА СУР'ЁЗНЫЯ РЭЧЫ. ТЫ СЛУХАЙ РЫКА І РАБІ ЎСЁ ТАК, ЯК ЁН КАЖА.


ЯНА ВЕДАЕ, СЯБРА. ТАБЕ НЯМА АБ ЧЫМ ХВАЛЯВАЦЦА. МЫ ЎСПРЫМАЕМ ГЭТА СУР'ЕЗНА.


ПРЫЕМНА ЧУЦЬ. ДЗЯКУЙ, КРЫС.


PTANG!


ДОБРА, ХЛОПЕЦ.
ДЗЯКУЙ. МОЙ НАСТАЎНІК ВЫШЭЙШЫ ЗА ЎСЯЛЯКУЮ ПАХВАЛУ.


ЭЙ! ЭЙ!
СПЫНІЦЕСЬ СТРАЛЯЦЬ!
ЗАРАЗ ЖА!


У ЧЫМ ПРАБЛЕМА, ХЕРШЭЛ?
ХАТА ТОМПСАНАЎ НА ДРУГІМ БАКУ ГЭТАЙ ЛЕСАПАЛАСЫ!
ВАШЫ КУЛІ ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ПАПАДАЮЦЬ У ІХ ХАТУ!
ВЫ НЕ МОЖАЦЕ ПРАЦЯГВАЦЬ СТРАЛЯЦЬ У ГЭТЫМ КІРУНКУ!


ХАЛЕРА, ПРАБАЧ... Я НАВАТ НЕ ВЕДАЎ.... ТОМПСАНЫ..ХУХ? ЯНЫ, УХ...
ЯНЫ Ў ТВАЁЙ КЛЕЦІ?


Я НЕ ЖАДАЮ, КАБ ВЫ ЗНІШЧЫЛІ ІХ ХАТУ. ВЫ НЕ МОЖАЦЕ ВОСЬ ТАК...


ГЭТА НЕ ТО, ШТО Я МЕЎ НА ЎВАЗЕ. Я НЕ...
ШТО? ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?


ОХ.
ХАЛЕРА.


Я ДУМАЮ, ШТО ЗМАГУ ДАСТАЦЬ ЯГО АДСЮЛЬ.
НЕ!


Я НЕ МАГУ ДАЗВОЛІЦЬ ТАБЕ ЗАСТРЭЛІЦЬ ЯГО. ЁН ЖА АДЗІН... ЯГО БУДЗЕ ЛЁГКА ЗАВЕСЦІ Ў КЛЕЦЬ.


БОЖУХНА.


БУДЗЬ УВАЖЛІВЫ. МНЕ НЕ ТРЭБА КАЗАЦЬ ЦЯБЕ, ЯК НЕБЯСПЕЧНЫ ЗУБЫ КОЖНАГА З ГЭТЫХ ПАЧВАР.
ХУУУУМНГ!
Я РАБІЎ ГЭТА НЕКАЛЬКІ РАЗОЎ РАНЕЙ.ТЫ Ж ВЕДАЕШ, ШТО ЯНЫ НЕБЯСПЕЧНЫ ТОЛЬКІ, КАЛІ ІХ ШМАТ.


АДЫЙДЗІ ТУДЫ І ПРЫЦЯГНІ ЯГО ЎВАГУ.


СЮДЫ, ПАЧВАРА!


ПАПАЎСЯ!
ЗДАЕЦЦА, У ВАС ЁСЦЬ СВАЯ МАЛЕНЬКАЯ СЫСТЭМА.


ВО ХАЛЕРА...
ЛЭЙСІ, АРНОЛЬД... МНЕ ПАТРЭБНА ВАША ДАПАМОГА, КАБ АДВЕСЦІ ЯГО Ў КЛЕЦЬ.
ГУУ.




АБЫЙДЗІЦЕ НАВОКАЛ І АДЦЯГНІЦЕ ЎВАГУ ДРУГІХ, ПАКУЛЬ Я ЗАПІХНУ ГЭТАГА.








БАЦЬКА!

АХХ. УХХ.









РАНЧЧЧ!
ОХ, БОЖУХНА! КАЛІ ЛАСКА, БОЖУХНА!


WHUMP!
НЕ!


ЛОРЫ! ВАЗЬМІ ЎСІХ ДЗЯЦЕЙ У ХАТУ І АБАРАНЯЙ ІХ!
ЗАСТАВАЙСЯ ТАМ!
НЕ!
НЕ МОЙ БАЦЬКА!
КРЫС! ДЖУЛІ! У ХАТУ З ЛОРЫ!


НЕ МОЙ БАЦЬКА!
ХУНЧЧ.


РРАР!
АААХ!


АРНОЛЬД!


ШОН, НЕ!
КАЛІ ЛАСКА, СЫНОК!
ЁН ТВОЙ БРАТ!
НЕ РАБІ ГЭТАГА!
ТЫ ПАВІНЕН
УСПОМНІЦЬ!
ТАТАЧКА!


МЭГІ,
СПЫНІСЬ!
BLAM!


ПУСЦІ
МЯНЕ!
FWOP!


BLAM!
BLAM!


НЕ!


НЕ!
BLAM!
ТАТАЧКА?!


ААКК!
*


ТАТАЧКА?
ТВАЮ ПУШКУ.




ТАТАЧКА!


BLAM!
Я ШКАДУЮ, ШОН.


BLAM!


BLAM!
Я ШКАДУЮ, АРНОЛЬД.


Я ШКАДУЮ.
BLAM!


Я ШКАДУЮ.


ХЕРШЭЛ, НЕ!


...




МНЕ ТАК ШКАДА...






ТЫ МЕЎ РАЦЫЮ.




ТАТА, МІСТЭР ГРАЙМС НЕ ЗАБРАЎ НАШЫ ПІСТАЛЕТЫ ПАСЛЯ ЗАНЯТКАЎ ПА СТРАЛЬБЕ. МНЕ НЕ ТРЭБА, КАБ ТЫ ПОТЫМ РАЗЗЛАВАЎСЯ, КАЛІ ВЫЗНАЧЫЎ, ШТО ЯНЫ Ў НАС... ТАМУ МЫ АДДАЁМ ІХ ТАБЕ.
РЫК ТРЫМАЎ ІХ У РУКАХ ЗАНАДТА ДОЎГА, ДЖУЛІ. Я ПРОСТА...


ВЕДАЕЦЕ ШТО? ТРЫМАЙЦЕ ІХ КАЛЯ САБЕ. З ІМІ ВЫ БУДЗЕЦЕ АБАРОНЕНЫ. ПРОСТА НЕ ДАСТАВАЙЦЕ ІХ, ПАКУЛЬ НЕ БУДЗЕ КРЫТЫЧНЫХ АБСТАВІН.


ОКЕЙ.




Я ДУМАЎ, ГЭТЫ ВЫБЛЯДАК НІКОЛІ НЕ ДАСЦЬ НАМ НАСІЦЬ ЗБРОЮ.
ЗАРАЗ АДТРЫМЛІВАЕЦЦА ЎСЁ ПРАСЦЕЙ.


МЫ ЗРОБІМ ГЭТА, ЯК ПРЫЙДЗЕ ЧАС. Я КАХАЮ ЦЯБЕ, КРЫС...
Я ТАКСАМА КАХАЮ ЦЯБЕ.






ДОБРАГА РАНКУ, ДАРАЖЭНЬКАЯ.
ЦІ ТЫ ДОБРА СПАЛА? ГЭТЫ ЛОЖАК ДЛЯ МЯНЕ САПРАЎДЫ ЦУДОЎНЫ. НАВАТ КАЛІ МЫ ЎТРОХ ЦЕСНІМСЯ, Я ВЫСЫПАЮСЬ ЛЕПЕЙ, ЧЫМ КАЛІ...
З ТАБОЙ УСЁ ДОБРА?


НЕ, РАНІШНЯЯ НУДОТА... СЁННЯ АСАБЛІВА МОЦНАЯ. Я НЕ...


-БУЛЬП-


МАМА БЛЮЕ ІЗНОЎ?
АГА.
ОХ.




МЭГІ,
Я…


ЯКОЙ ХАЛЕРЫ ТЫ ТУТ РОБІШ?!
ОХ, СЭР! УХ… Я САПРАЎДЫ НІЧОГА НЕ РАБІЎ… ВАША ДАЧКА І Я… МЫ…


ПРАБАЧЦЕ!


НЕ!


ПАПА... НЕ!


І ТЫ! ШТО ВЫ РАБІЛІ, МЭГІ? ЛЭЙСІ, АРНОЛЬД І ШОН НЕ ПРАБЫЛІ Ў ЗЯМЛЕ І ДВАЦЦАЦІ ЧАТЫРОХ ГАДЗІН, А ВЫ РОБІЦЕ ГЭТА ТУТ?
МЯНЕ АД ВАС ВАНІТУЕ!


ГЭЙ!


ГЛЕН І Я КАХАЕМ АДЗІН АДНАГО, ТАТА. МНЕ ТРЭБА БЫЛО СКАЗАЦЬ ТАБЕ ГЭТА РАНЕЙ, АЛЕ Ў МЯНЕ ПРОСТА НЕ АТРЫМАЛАСЯ! МЫ КАХАЕМ АДЗІН АДНАГО, І ТЫ НІЧОГА НЕ ЗМОЖАШ ЗРАБІЦЬ З ГЭТЫМ.
МНЕ ДЗЕВЯТНАЦЦАЦЬ, І Я ДАСТАТКОВА ДАРОСЛАЯ, КАБ РАБІЦЬ УСЁ, ШТО Я ПАЖАДАЮ!
ЁН СПАЎ ТУТ МІНУЛАЙ НОЧЧУ, БО Я ЯГО ПАПРАСІЛА АБ ГЭТЫМ. Я... Я ПРОСТА НІКОЛІ НЕ СПАЛА АДНА Ў ГЭТЫМ ПАКОІ РАНЕЙ!


Я НЕ МАГЛА... ЛЭЙСІ ПАМЁРЛА. МНЕ БЫЛО ПАТРЭБНА, КАБ ХТОСЬЦІ БЫЎ ТУТ.
...




ДЭЙЛ, ТЫ ІДЗЕШ?


ТАК, ХВІЛІНКУ. Я ПРОСТА ХАЦЕЎ ТУТ ТРОХІ ПРЫБРАЦЦА. ПАМЯТАЕШ, ГЭТА БЫЛО НАША МЕСЦА, ДА ТАГО, ЯК УСЕ ПАЧАЛІ СПАЦЬ ТУТ? ГЭТА БЫЛО ФАЙНА.
У ЭРМЫ БЫЛА Б ІСТЭРЫКА, КАЛІ Б ЯНА ЎБАЧЫЛА ЎСЁ ГЭТА.
Я НЕ ДУМАЎ, ШТО КАЛІСЬЦІ АДЧУЮ ТУТ ПАХ УСЯГО ГЭТАГА. Я ДУМАЮ, ЁН УЕЎСЯ Ў СЦЕНЫ. ГЭТА МЕСЦА РАЗВАЛЬВАЕЦЦА.


ПРАБАЧ, Я ВЕДАЮ, ШТО ТАБЕ НЕ ПАДАБАЕЦЦА, КАЛІ Я ЎСПАМІНАЮ ЯЕ.
НЕ. ЯНА БЫЛА ТВАЁЙ ЖОНКАЙ, Я РАЗУМЕЮ. ПРОСТА ГЭТА НАГАДВАЕ МНЕ, ШТО ЯНА ЗАЎСЁДЫ Ў ТВАІХ ДУМКАХ, І Я...
НЕ ДУМАЙ АБ ГЭТЫМ, АНДРЭА. Я БЫЎ ЖАНАТЫ НА ЭРМЕ БОЛЕЙ САРАКА ГАДОЎ. ТЫ НЕ ПАВІННА РАЎНАВАЦЬ ДА МАІХ УСПАМІНАЎ.
Я ВЕДАЮ, ДЭЙЛ... Я ВЕДАЮ.
Я КАХАЮ ЦЯБЕ АНДРЭА, САПРАЎДЫ КАХАЮ.
КЛЯНУСЯ.

НЕ ДУМАЮ, ШТО ТУТ ПРАЦЫ НА АДЗІН ДЗЕНЬ. ПРАБАЧ, ХЛОПЧА, АЛЕ Я ДУМАЮ, ШТО ТАБЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ПРАВЕСЦІ ЯШЧЭ КОЛЬКІ НАЧЭЙ У ТРЭЙЛЕРЫ.

ВЕДАННЕ ТАГО, ШТО ХУТКА Я ПАКІНУ ФУРГОН, БУДЗЕ ПАДШТУРХОЎВАЦЬ МЯНЕ. ПРЫЕМНА ДУМАЦЬ, ШТО МЯНЕ ЧАКАЕ СТОГ СЕНА ЗАМЕСТ МАЙГО МЕСЦА НА ПАДЛОЗЕ Ў ТРЭЛЕРЫ.











ТЫ ШТОСЬЦІ СПЫТАЎ?
НЕ... МДА.. ГЭТА НЕ ТАК. Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО КАЗАЦЬ.

АКРАМЯ НЕКАЛЬКІХ РЭЧАЎ... АКРАМЯ НАПРУГІ З ЦЯЖАРНАСЦЮ... У МЯНЕ ЎСЁ ДОБРА. У МЯНЕ ЁСЦЬ ЖОНКА І СЫН... МЫ АБАРОНЕНЫ... МНЕ НЯМА НА ШТО СКАРДЗІЦЦА.
Я НЕ МАГУ ПРЫКІДВАЦЦА, ЯК БЫЦЦАМ БЫ Я ВЕДАЮ, ПРАЗ ШТО ТЫ ПРАХОДЗІШ... Я НЕ МАГУ КАЗАЦЬ "ТАК, Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ АДЧУВАЕШ." ТАМУ ШТО НЕ МАГУ. Я ПРОСТА НЕ ВЕДАЮ, ШТО КАЗАЦЬ.

ТЫ НЕ ПАВІНЕН НІЧОГА КАЗАЦЬ, РЫК.
ТЫ НЕ МОЖАШ ВЫПРАВІЦЬ ГЭТА. ТЫ НЕ МОЖАШ ЗРАБІЦЬ ТАК, КАБ Я АДЧУВАЎ СЯБЕ ЛЕПЕЙ. Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ НЕПАКОІШСЯ. ГЭТА ЎЖО ШТОСЬЦІ. ГЭТАГА ДАСТАТКОВА.

ОКЕЙ, ЗРАЗУМЕЎ...
Я...

ХАЛЕРА ДЗЯРЫ! ГЭТА ГЛУПСТВА!
МЫ ЧЫСЦІМ ГЭТАЕ МЕСЦА, КАБ ЖЫЦЬ ТУТ? МЫ ЗБІРАЕМСЯ ПРАВЕСЦІ РЭШТКУ ЖЫЦЦЯ Ў КЛЕЦІ?!

ХЕРШЭЛ ДОБРЫ ХЛОПЕЦ . Я ВЕДАЮ, ШТО ЁН ТОЛЬКІ ЗГУБІЎ ДВУХ ДЗЯЦЕЙ... АЛЕ КАЛІ Ў ГЭТЫМ ДОМЕ ЁСЦЬ СВАБОДНЫ ПАКОЙ, ТО Я НЕ БАЧУ ПРЫЧЫНЫ, ЧАМУ МЫ ПАВІННЫ ЗАСТАВАЦЦА ТУТ.

ЁН ДАЗВОЛІЎ ЛОРЫ І МНЕ ЖЫЦЬ У ГЭТЫМ ПАКОІ З КАРЛАМ... ТЫ ДЫ БЛІЗНЯТЫ ПАВІННЫ СПАЦЬ З НАМІ... У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ, КАЛІ МЫ ПАДЗЕЛІМ ПАКОЙ, ГЭТА БУДЗЕ ЛЕПЕЙ, ЧЫМ СПАЦЬ У КЛЕЦІ.
ПАЙДУ ЗНАЙДУ ХЕРШЭЛА.


ХЕРШЭЛ?
ЁСЦЬ ХВІЛІНКА?


КАЛІ КОНЬ НЕ ЗАМІНАЕ, Я ЎВАЖЛІВА СЛУХАЮ.


ХЕРШЭЛ, Я ВЕДАЮ, ШТО ЗАРАЗ НЕ ЛЕПШЫ ЧАС, КАБ ПАДНІМАЦЬ ГЭТАЕ ПЫТАННЕ... З-ЗА ТАГО, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ ЎЧОРА, АЛЕ Я ПАДУМАЎ...
АЛЕН І Я ВЫЧЫСЦІМ САРАЙ І ЗМОЖАМ СПАЦЬ ТАМ. ВОСЬ ТОЛЬКІ Я НЕ БАЧУ СЭНСА ВА ЎСІМ ГЭТЫМ. МЫ НЕ МОЖАМ УВЕСЬ ЧАС СПАЦЬ У САРАІ, І КАЛІ Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ПАКОЙ, Я НЕ БАЧУ ПРЫЧЫН, ЧАМУ МЫ НЕ МОЖАМ...


НЕ. ЦАЛКАМ ВЫКЛЮЧАНА. ВЫ ЗАПРОШАНЫ, ПАКУЛЬ ТВОЙ СЫН ЛЕЧЫЦЦА. ЯК ТОЛЬКІ ЁН БУДЗЕ ЗДАРОВЫ,ТЫ КОЦІШСЯ АДСЮЛЬ. ВЫ НЕ ПЕРАБЕРАЦЕСЯ Ў ХАТУ. ВЫ НЕ ЗАБЕРАЦЕ ПАКОЙ МАІХ СЫНОЎ.
НЕ.


ШТО?


НЕ.
ЗАРАЗ ПАКІНЬ МЯНЕ АДНАГО.


ЛЯГЧЭЙ!
У СВОЙ ЧАС Я ЗЛАМАЎ НЕКАЛЬКІ РАБРЫН... ЯНЫ ЛЁГКА ЛАМАЮЦЦА.
ХА?


ВЯЛІКІ МОЦНЫ МУЖЧЫНА! І Я АДКІДВАЮСЯ НАЗАД ЗАНАДТА МОЦНА?


ШТО Я МАГУ КАЗАЦЬ... ВЫТРЫВАЛАСЦЬ МАЯ ПОЎНАЕ ЛАЙНО.
ОКЕЙ, ПАСПРАБУЕМ ЯШЧЭ РАЗ.


ЛЕПШ?
АГА.


Я ТАК РАД, ШТО ЗНАЙШОЎ ЦЯБЕ, КЭРАЛ. УСЁ ІДЭАЛЬНА.
ТАК, ГЭТА... ХУТКА... ПАСТУЧЫ ПА ДРЭВУ.
ОХ, СПЫНІСЯ.


Я СУР'ЁЗНА. НІКОЛІ НЕ ВЕДАЕШ, ШТО ЗДАРЫЦЦА.


ЛОРЫ, НЕ ТРЭБА!
ГЭЙ!


ТЫ ВЫШПУРВАЕШ НАС?! ЧАМУ?! ШТО МЫ, ХАЛЕРА ДЗЯРЫ, ЗРАБІЛІ?
ЯК ТЫ МОЖАШ ДАЦЬ НАМ ПРЫТУЛАК І ЗАРАЗ ВОСЬ ПРОСТА ТАК ВЫШПУРНУЦЬ АДСЮЛЬ?


Я НІКОЛІ НЕ ЗАПРАШАЎ ВАС ЗАСТАЦЦА ТУТ. Я ДАЗВОЛІЎ ЗАСТАЦЦА ВАМ ТУТ, ПАКУЛЬ НА ЛЕКАВАННІ ТВОЙ СЫН. У МЯНЕ НЕ ХАПАЕ ЕЖЫ, КАБ ВАС ПРАКАРМІЦЬ... Я ПАВІНЕН КЛАПАЦІЦЦА ПРА СВАЮ СЯМ'Ю.


ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ КЛЕЦЬ, ПАЎНЮТКУЮ ТРАКЛЯТЫХ ЗОМБІ?! ЦІ ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ПАЧАЦЬ КЛАПАЦІЦЦА ПРА СЯМ'Ю ТОЛЬКІ ЗАРАЗ?
КАЛІ Б НАС ТУТ НЕ БЫЛО... І МЫ Б НЕ ДАЛІ СВАЮ ЗБРОЮ... ЗАРАЗ ВЫ БЫ БЫЛІ МЁРТВЫЯ! І ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ВЫТУРЫЦЬ НАС?


ШТО ВЫ АД МЯНЕ ЖАДАЕЦЕ? Я ВЫРАТАВАЎ ЖЫЦЦЁ ВАШАМУ ХЛОПЧЫКУ І ЗГУБІЎ СВАІХ ДВАІХ. ЛІЧЫЦЕ, ШТО Я АДДАЎ ВАМ НЕ ДАСТАТКОВА?


МЫ НЕ ЗАБІВАЛІ ТВАІХ ДЗЯЦЕЙ. КАЛІ ХТОСЬЦІ ТУТ ВІНАВАТЫ, ДЫК ГЭТА ТЫ І ТВАЯ ДУРНАТА!


ТЫ ПРАМОВІЛА ДАСТАТКОВА, ЖАНЧЫНА!
ТАТА, НЕ!


ХОПІЦЬ!


НЕ ЧАПАЙ МЯНЕ!


ТЫ ЗБІРАЎСЯ ПАБІЦЬ МЯНЕ?! ШТО ЗА ХАЛЕРА З ТАБОЙ?


Я ЗГУБІЎ ТРОХ ДЗЯЦЕЙ, ТЫ, ДУРНАЯ КУРВА, ТРОХ! СЁННЯ Я ЗНАЙШОЎ АДНАГО З ВАШЫХ! ЁН ПЯЛІЎ МАЮ ДАЧКУ... ПОТЫМ ТВОЙ МУЖ ХОЧА ЗАБРАЦЬ ПАКОЙ МАІХ ДЗЯЦЕЙ! ЗАРАЗ ТЫ ДАНІМАЕШ МЯНЕ, ТАМУ ШТО Я НЕ ДАЮ ВАМ, НАХЛЕБНІКАМ, ЕСЦІ МАЮ ЕЖУ І ЗАПОЎНІЦЬ МАЮ ХАТУ!
КАЛІ ВЫ ЎЖО ПОЙДЗЕЦЕ? ГЭТА МАЯ ХАТА! У МЯНЕ ЁСЦЬ СЯМ'Я, КАБ КЛАПАЦІЦЦА ПРА ІХ! Я НІЧЫМ ВАМ НЕ АБАВЯЗАНЫ, ХАЛЕРА!




Я НЕ АБАВЯЗАНЫ.


МЫ НІКОЛІ НЕ КАЗАЛІ, ШТО ТЫ ЧЫМСЦІ НАМ АБАВЯЗАНЫ, ХЕРШЭЛ.

МЫ ДУМАЛІ, ШТО ТЫ ДАЗВОЛІЎ НАМ ЗАСТАЦЦА ТУТ. ТЫ НІКОЛІ НЕ КАЗАЎ, ШТО ГЭТА, ХАЛЕРА ДЗЯРЫ, ЧАСОВА.

У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ДУМКІ, ЯК ГЭТА БЫЛО ЦЯЖКА? ПАЛЯВАННЕ ДЗЕЛЯ ЕЖЫ? ДАЎКА Ў ГЭТЫМ ЧОРТАВЫМ ФУРГОНЕ? ПАДВЯРГАЦЦА НАПАДУ ПАЧВАР НА КОЖНЫМ КРОКУ?

НЕ.

МАЯ.

ПРАБЛЕМА.

Я ПАВІНЕН КЛАПАЦІЦЦА ПРА СВАІХ ДЗЕЦЯХ.




МЫ МАГЛІ Б ЖЫЦЬ ТУТ! ТЫ НЕ МОЖАШ ВОСЬ ПРОСТА ТАК ВЫШПУРНУЦЬ НАС АДСЮЛЬ! МЫ МОЖАМ ПАМЕРЦІ! ТЫ ПАДПІСВАЕШЬ НАМ СМЯРОТНЫ ПРЫСУД!

ТЫ НЕ МОЖАШ ЗРАБІЦЬ ГЭТА!

ЛОРЫ, КАЛІ ЛАСКА.

УСЁ БУДЗЕ ДОБРА.


ВЫ ПАВІННЫ СЫСЦІ.
ЗАРАЗ.


ХЕРШЭЛ, ЯКОЙ ХАЛЕРЫ?!?!
МНЕ ПАТРЭБНА, КАБ ЯНЫ СЫШЛІ, ОЦІС. УСЁ ПАЙШЛО ДРЭННА ПАСЛЯ ІХ ПРЫХОДУ.


І ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЯНЫ СЫЙДУЦЬ.


ЯНЫ ЎСЁ САПСАВАЛІ.


ДОБРА. МЫ ПАЕДЗЕМ.
МЫ З'ЯЗДЖАЕМ.


ХЕРШЭЛ? ТЫ ТАМ? МНЕ ТРЭБА ПАГАВАРЫЦЬ З ТАБОЙ.
Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА Ў ТВАЕЙ ГАЛАВЕ, АЛЕ ТЫ Ж МОГ ЗАБІЦЬ ЧАЛАВЕКА.
ТЫ МЯНЕ ТАМ ЧУЕШ?

Я РАЗУМЕЮ, ТАБЕ ПАТРЭБНА, КАБ ЯНЫ СЫШЛІ... АЛЕ ТАК АБЫЙСЦІСЯ З ІМІ - ГЭТА НЕ ВЫЙСЦЕ. ТЫ ПАВІНЕН ПАПРАСІЦЬ ПРАБАЧЭННЯ Ў РЫКА ПЕРАД ТЫМ, ЯК ЁН СЫЙДЗЕ.
ТЫ ПАВІНЕН...
ТЫ ТАМ?

ХЕРШЭЛ?

ХЕРШЭЛ!

Я МОГ ЗАСТРЭЛІЦЬ ГЭТАГА ЧАЛАВЕКА, ОЦІС. Я ХАЦЕЎ НАЦІСНУЦЬ НА ЦЫНГЕЛЬ, КАЛІ Б ЯШЧЭ ЁН ПРАЦІВІЎСЯ ГЭТАМУ. Я ЖАДАЎ, КАБ ЯНЫ СЫШЛІ.
Я АМАЛЬ ШТО НАЦІСНУЎ НА ЦЫНГЕЛЬ. Я АМАЛЬ ЗАБІЎ ЧАЛАВЕКА.

Я ДУМАЮ, Я З'ЕХАЎ З ГЛУЗДУ.



ТЫ РАЗВІТАЎСЯ З ДЗЯЎЧЫНАЙ?
НЕ.
НЕ? ШТО ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ?


Я НЕ ІДУ. Я ЗАКАХАЎСЯ, РЫК... ЦІ ШТОСЬЦІ ПАДОБНАЕ ДА ГЭТАГА. Я НЕ ВЕДАЮ, ЦІ АТРЫМАЕЦЦА Ў МЯНЕ СУСТРЭЦЬ ТАКУЮ ЖАНЧЫНУ, ЯК МЭГІ. ЯНА АБМЕРКАВАЛА ГЭТА СА СВАІМ БАЦЬКАМ... ЁН КАЖА, ШТО ЎСЁ ОК.
Я НЕ ЕДУ.
ОХ, ГЛЕН... Я...УХ...


Я ДУМАЮ, ШТО АДНА З НАГОД, ЧАМУ Ў МЯНЕ НЕ БЫЛО ЦЯЖКАСЦЕЙ ЗБЕГАЦЬ У АТЛАНТУ ЗА ХАРЧАМ, У ТЫМ, ШТО МНЕ БЫЛО АБЫЯКАВА ПАМРУ Я ЦІ НЕ. Я БЫЎ НАПУЖАНЫ... АЛЕ МЯНЕ НЕ ХВАЛЯВАЎ МОЙ СТРАХ. Я ДУМАЮ, ШТО ЗАЎСЁДЫ ШУКАЎ СМЕРЦІ... ТОЛЬКІ Б ГЭТА СКОНЧЫЛАСЯ.
ЗАРАЗ Я ГЭТАГА НЕ АДЧУВАЮ. ТОЛЬКІ НЕ З МЭГІ.
Я ПАВІНЕН ЗАСТАЦЦА, РЫК. Я НЕ ЖАДАЮ АДЧУВАЦЬ СЯБЕ ЯК РАНЕЙ. НЕ ЖАДАЮ БЫЦЬ У АДЗІНОЦЕ.


НЕ, ГЛЕН... Я РАЗУМЕЮ. Я ЖАДАЮ, КАБ ТЫ БЫЎ ШЧАСЛІВЫ.
Я ШЧАСЛІВЫ. Я НЕ ДУМАЎ, ШТО ГЭТА МАГЧЫМА. АЛЕ ГЭТА ТАК.
ЦІ ЖАДАЕШ ЗАЙСЦІ СКАЗАЦЬ УСІМ "ДА ПАБАЧЭННЯ"?
НЕ. ПРОСТА ЕДЗЬЦЕ. Я ВЕЛЬМІ НЕ ЛЮБЛЮ РАЗВІТВАЦЦА.




*УЗДЫХ*
МЫ ІЗНОЎ ЕДЗЕМ.
ЗЯПУ ПРЫКРЫЙ.


Я Б ЗАБІЛА ЗА ШТОСЬЦІ САЛЁНАЕ.
А Я Б ЗАБІЛА ЗА ШТО ЗАЎГОДНА. НАМ ТРЭБА ЗНАЙСЦІ ЯКОЙ-НЕБУДЗЬ ЕЖЫ. І ХУТКА.
ХАРЧЫ СКОНЧВАЮЦЦА. ПАЛЯВАННЕ НЕ АСАБЛІВА ПАСПЯХОВАЕ... ДЛЯ ДАЛЁКАГА ПЕРАЕЗДУ.






МОЖНА МНЕ ЯШЧЭ, МАМАЧКА?


ПРАБАЧ, САФІЯ. ГЭТА ЎСЁ, ШТО Ў НАС ЁСЦЬ. ХАРЧЫ СКОНЧЫЛІСЯ.


АЛЕ Я ВЕЛЬМІ ХАЧУ ЕСЦІ.










ENERAL STORE






НІЧОГА?
НІЧОГА, ШТО МЫ МАГЛІ Б З'ЕСЦІ.
DINER


У НАС СКОНЧЫЛАСЯ ПАЛІВА. МЫ ДОЎГІ ЧАС НЕ БАЧЫЛІ ПАКІНУТЫХ МАШЫН. Я ХАЧУ, КАБ ВЫ ЎСЕ РАЗЫШЛІСЯ І ШУКАЛІ АЎТАМАБІЛІ ДЗЕ ЗАЎГОДНА. КАЛІ ВЫ ПАБАЧЫЦЕ БЛІЗКА ДА НАС НЕЙКІЯ ПАБУДОВЫ, ПАВЕДАМЛЯЙЦЕ НАМ. МАЖЛІВА, НАМ БУДЗЕ, ДЗЕ ПРАВЕСЦІ НЕКАЛЬКІ НАЧЭЙ ПА-ЗА ФУРГОНАМ.
ТРЫМАЙЦЕ ВАШУ ЗБРОЮ ПАД РУКОЙ, КАЛІ ПАБАЧЫЦЕ ЗОМБІ, НЕ ДАВАЙЦЕ СЯБЕ АКРУЖЫЦЬ. ПАМЯТАЙЦЕ, ШТО ВЫ ШПАРЧЭЙ І РАЗУМНЕЙ. НЕ ГУБЛЯЙЦЕ СТРЫМАНАСЦІ, БЯГІЦЕ, КАЛІ ГЭТА МАГЧЫМА.
КАЛІ ВЫ ЗНОЙДЗЕЦЕ ЕЖУ... ВЯРТАЙЦЕСЯ ЯК МАГА ХУТЧЭЙ І ПАДЗЯЛІЦЕ ЯЕ. НЕ ЗАБЫВАЙЦЕ ПРА ДЗЯЦЕЙ.
КАЛІ ЗНАЙШЛІ ШТОСЬЦІ - ЕЖУ, ПАЛІВА ЦІ СХОВАНКУ - ВЯРТАЙЦЕСЯ ДА ФУРГОНА І ЦІСНІЦЕ НА КЛАКСОН. АЛЕН ЗАСТАНЕЦЦА ТУТ З ДЗЕЦЬМІ.


КАЛІ ВЫ НІЧОГА НЕ ЗНАЙШЛІ, ВЯРТАЙЦЕСЯ СЮДЫ ДА ЦЕМРЫ.
У НАС ЁСЦЬ УСЯГО НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН.


НАРЭШЦЕ АДНІ.
НІЧОГА НЕ АТРЫМАЕШ. Я ГАЛОДНАЯ. МЫ НІЧОГА НЕ БУДЗЕМ РАБІЦЬ, ПАКУЛЬ НЕ ЗНОЙДЗЕМ ШТОСЬЦІ, ШТО МОЖНА З'ЕСЦІ.
КАЛІ Б МНЕ ЗА ГЭТА НІЧОГА НЕ БЫЛО... ТО Я Б АДКУСІЛА КАВАЛАК АД ЦЯБЕ.


ПАЦЕШНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА.
ТЫ - ДЗІЦЁ ГЭТАГА ЧАСУ. Я НЕ РАЗУМЕЮ ТВАЙГО ГУМАРУ.


УХ-ХУХ.
ЯШЧЭ АДЗІН ДЗЕНЬ БЕЗ ЕЖЫ - НІКОМУ НЕ БУДЗЕ СМЕШНА.


УНГ
З ТАБОЙ УСЁ Д...?


МЫ ПРОСТА АБАВЯЗАНЫ ПАКАЗАЦЬ РЫКУ І АСТАТНІМ.
МДА ОХ. ВАЎ.


HONK! HONK! HONK! HONK!
ОЙ.


ВЫ ХУТКА. ШТО ВЫ ЗНАЙШЛІ?
САМ ПАБАЧЫШ. ПРОСТА ІДЗІ ЗА МНОЙ.




ОХ, ХЛОПЕЦ.


О, НЕ...
ІХ ТАМ ШМАТ.
МЫ НЕ МОЖАМ
ПАЙСЦІ ТУДЫ.
МАЖЛІВА,
ГЭТА І НЕБЯСПЕЧНА,
АЛЕ ПАГЛЯДЗІ НА ГЭТУЮ
АГАРОДЖУ. ЯНА МАГЛА
Б АБАРАНІЦЬ НАС.
У ГЭТЫМ МЕСЦЫ
ЁСЦЬ ЛОЖКІ,
ВОПРАТКА, НАВАТ
МАЖЛІВА ЕЖА.
ГЛЯДЗІ,
УСЯ ПРАСТОРА
АБНЕСЕНА ПЛОТАМ.
БЯСПЕКА. АБАРОНА.
МЫ МАГЛІ Б
ЖЫЦЬ ТУТ.
НЕ...
МЫ ПАВІНННЫ
ВЫЧЫСЦІЦЬ ГЭТАЕ
МЕСЦА. ІХ НЕ МОЖА
БЫЦЬ ШМАТ УНУТРЫ.
ГЭТАЕ МЕСЦА ЗАНАДТА
ДОБРАЕ, КАБ АД ЯГО
АДМАЎЛЯЦЦА. МЫ
ПАВІННЫ ЗРАБІЦЬ
ГЭТУЮ ПРАЦУ.

